Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 23 (4669) 8 чэрвеня 2012 г.

## Думка пісьменніка

# Год беларускай кнігі



Роўна пяцьсот год таму, у 1512-м, наш зямляк палачанін Францыск Скарына абараніў дыплом доктара лекарскіх навук у еўрапейскай Падуі. Ужо самім ходам гісторыі было наканавана яму разам з хваробамі цялеснымі клапаціцца пра здароўе чалавечага духу — першым ва ўсходнім славянстве скарыстаць друкаванае слова і праз свае першадрукі далучыць суайчыннікаў да ўсіх будучых шчадрот прыгожага пісьменства.

Ці можам сягоння ўявіць мы сябе без кнігі? У час электронных сродкаў інфармацыі, на разнасцежанай інфармацыйнай прасторы свету, магчыма, кніга камусьці і падаецца ўжо даўно пераждытай архаікай. Аднак якая асалода, згадзіцеся, узяць у рукі класічны або сучасны том, перагортваць яго старонкі і акунацца ў хвалюючыя глыбіні зместу, памятаючы, што гэты скарб духоўны абессмяроціў у Слове ўсіх нашых папярэднікаў, як заўтра зробіць бессмяротным і наш час, калі станецца гістарычным паўзабыццём наша сучасная ява.

Сягонняшняя беларуская кніга — і мастацкая, і навуковая — творчае дасягненне таленавітага, інтэлектуальна развітага народа, яго адзін з самых значных духоўных здабыткаў. У нашай краіне ў першую нядзелю верасня штогод праходзіць Дзень беларускага пісьменства, на якім па-дзяржаўнаму мудра ўшаноўваецца кніга і сама кніжна-выдавецкая справа, айчынная літаратурна-мастацкія выданні.

Адным з самых актуальных стаўся клопат і вядомых пісьменнікаў, і выдаўцоў пра лёс першых таленавітых кніг нашых маладых творцаў. Дзясяткі іх выходзяць у свет з рэальнай дзяржаўнай падтрымкай. Мы ў чаканні ад маладой літаратурнай змены сапраўдных мастацкіх адкрыццяў, твораў, якія стануць упоравень з вяршыннымі здабыткамі айчыннай літаратуры, а імёны іх аўтараў будуць называцца заўтра побач з імёнамі нашых класікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага, Міхася Лынькова, Кандрата Крапівы, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Пімена Панчанкі, Уладзіміра Караткевіча…

Бягучы год, які названы ў нас Годам кнігі, будзе азораны святлом 130-годдзя светачаў нашага айчыннага слова Янкі Купалы і Якуба Коласа, стагоддзя Максіма Танка і 90-годдзя старэйшага літаратурна-мастацкага выдання краіны — часопіса "Полымя". І няма сумнення, што Год Кнігі спародзіць новую хвалю грамадскай увагі і да нашай класічнай літаратурнай спадчыны, і да нашай пошукава-творчай літаратурнай сучаснасці.

Мікола МЯТЛІЦКІ



# І Песня, і Паэзія!

**XII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі вядзе рэй у Маладзечне з 8 па 10 чэрвеня. Нарэшце фэст вярнуўся да штогадовага рытму. Аднак імпрэза такога ўзроўню не змагла б адбыцца без падтрымкі Міністэрства культуры нашай краіны, Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, Маладзечанскага райвыканкама, без клопату ініцыятара стварэння фестывалю — прафесара Міхаіла Фінберга — і апякунства Саюза пісьменнікаў Беларусі. Напярэдадні адкрыцця на пытанні "ЛіМа" адказаў Народны артыст Рэспублікі Беларусь, адзначаны ордэнам Францыска Скарыны, намеснік старшыні Саюза кампазітараў Беларусі Эдуард Зарыцкі.**

**Таццяна СІВЕЦ,**
**фота з архіва Віктара Кавалёва,**
**калаж Віктара Калініна**

**— Калі гаворка ідзе пра Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, то, на вашу думку, якая яго галоўная мэта?**

— Я быў удзельнікам усіх фестываляў: як толькі прыйшоў у аркестр, адразу ж уключыўся ў працу. А для маладых выканаўцаў гэта быў сапраўды зорны час: здымала тэлебачанне, галасы запісвалі на касеты… Сёння, можа, крыху складаней, але і новыя песні гучаць, і вершы — так што маладыя могуць адразу знайсці сабе рэпертуар. Бачу, як рыхтуюцца да выступлення маладыя хлопцы і дзяўчаты. Для іх выйсці на сцэну, атрымаць ацэнку ад вядомых кампазітараў, пазнаёміцца з паэтамі — ужо вялікае свята!

**— Варта прыгадаць, як у 2007-м на гэтым творчым форуме шырока адзначалася 125-годдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа. Што ж чакае нас сёлета, у Год кнігі?**

— Вельмі шмат цікавага! 8 чэрвеня ў Мінскім абласным драматычным тэатры адбудзецца літаратурна-музычная вечарына "Вобразы мілыя роднага краю" з удзелам вядучых акцёраў дзяржаўных тэатраў краіны, прагучыць рок-опера "Курган" паводле паэмы Янкі Купалы (музыка Ігара Лучанка, аўтар праекта — Андрэй Скарынкін). 9 чэрвеня — урачыстае адкрыццё фестывалю гала-канцэртам "Дзве яркія зоркі" Заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі" пад кіраўніцтвам лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Міхаіла Фінберга. (Дарэчы, "Дзве яркія зоркі" — назва маёй песні на словы Васіля Жуковіча, прысвечаная Купалу і Коласу. Да таго ж, мне прыемна адзначыць, што ў гэтым канцэрце будзе гучаць увесь мой цыкл на словы Якуба Коласа — дванаццаць песень.) Акрамя таго, у той жа дзень пройдуць паэтычныя чытанні ў Вязынцы і літаратурныя сустрэчы ў Маладзечне. А ўжо на наступны дзень гасцей чакаюць музычныя хіты розных часоў і падвядзенне вынікаў конкурсу маладых выканаўцаў на закрыцці фестывалю.

**— Вы першы з айчынных кампазітараў стварылі цыкл песень на словы Якуба Коласа, працавалі з вершамі найлепшых айчынных паэтаў — ад Багушэвіча да Караткевіча. Аднак жа бывае, што часам на нейкім творцы стаіць штамп "няспеўнасці". Здаецца, з Коласа вы нарэшце такі штамп знялі?**

— Калі я працую з творамі класікаў, я кажу сабе: гэта мой сучаснік. І раблю песні для моладзі, з сучаснымі рытмамі і пачуццямі. Да таго ж, на вершы Якуба Коласа пісаць музыку было не так складана, як на словы Караткевіча. Але тым больш цікава было пераадольваць супраціўленне матэрыялу. Нават давялося рабіць кампіляцыі з двух-трох вершаў...

**— Прынамсі, многія маладыя выканаўцы адкрылі для сябе беларускую паэзію.**

— Так, яны нават пачыналі дыхаць іначай! Я бачыў, як загараліся іх вочы, як яны адчувалі, як прымалі паэтычнае слова. А пасля цягнуліся да айчыннай літаратуры.

**— Песня на словы вядомага паэта — варыянт, з якога боку ні зірні, выйгрышны для кампазітара — чаму ж сёння на музыку часцей кладзецца паўаматарскі тэкст, а не добры верш?**

— Я, калі пачынаў, адразу зразумеў, што добрая паэзія заўсёды "выцягне". І ні разу не пашкадаваў пра намер працаваць з творамі класікаў. На жаль, многія сучасныя "кампазітары" ганарацца тым, што не ведаюць нот! Усё робіць камп'ютар…

**— Якім павінен быць верш, каб стаць песняй?**

— Памятаю, калі яшчэ быў малады, мяне зацікавіў верш Сяргея Грахоўскага "Цыганскія кастры". Я прапанаваў паэту сваю музыку. Ён даволі доўга не пагаджаўся з варыянтам "Начныя кастры" і нават пасля таго, як песня была запісаная, тэлефанаваў і прапаноўваў: "Давайце яшчэ тут дапрацуем і вось тут…" Наогул, мне здаецца, што чым вышэйшы ўзровень у паэта, тым лягчэй яму нешта перарабіць. Маладыя ж ніводнага слова не хочуць змяняць. А для мяне самы лепшы верш — той, які пачынаеш чытаць і адразу чуеш мелодыю. Дачытаў — і песня гатовая! Напрыклад, у паэзіі Адама Русака вельмі ўсё меладычна. Але цяпер мне цікава працаваць з тым, што не адразу "гучыць". Здаецца, і на перадавіцу "ЛіМа" мог бы напісаць музыку!

## Пункціpам

✔ Па даручэнні Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч уручыў дзяржаўныя ўзнагароды заслужаным людзям Беларусі. У спісе ўзнагароджаных 111 чалавек. Гэта работнікі прамысловасці, энергетыкі, медыцыны, адукацыі, навукі і культуры.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сувязі са смерцю народнага артыста РСФСР Эдуарда Хіля накіраваў спачуванні яго ўдаве, родным і блізкім. "Песні Эдуарда Хіля, любімыя некалькімі пакаленнямі слухачоў, сталі сапраўды залатымі шлягерамі, яны заўжды дарылі людзям радасць і добры настрой", — сказана ў спачуванні.

✔ Дыплом "Танаровы прафесар БДУ" ўручаны старшыні Савета Федэрацыі Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі Валянціне Мацвіенцы за вялікі ўнёсак у развіццё беларуска-расійскіх сувязей у галіне адукацыі, навукі і культуры.

✔ Міністэрствам інфармацыі Беларусі перададзена для пацыентаў Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі каля 400 кніг айчынных выдавецтваў. Гэта мастацкая і навучальная літаратура. Акцыя была прымеркавана да Міжнароднага дня абароны дзяцей і святкавання ў Беларусі Года кнігі.

✔ Міністэрства культуры Беларусі праводзіць конкурс на стварэнне эскізных праектаў помніка-бюста народнаму паэту Беларусі Максіму Танку, 100-годдзе якога будзе шырока адзначацца сёлета. Помнік мяркуецца ўсталяваць у Мядзеле.

✔ Беларускі скрыпач Арцём Шышкоў стаў лаўрэатам самага буйнога і прэстыжнага сусветнага музычнага конкурсу — імя каралевы Елізаветы, які праходзіў у Брусэлі (Бельгія). Юбілейны, 75-ы конкурс праводзіўся ў намінацыі "Скрыпка". Арцём атрымаў адну з шасці прэмій, вылучаных для пераможцаў. Малады музыкант выканаў сваю праграму на ўнікальнай скрыпцы Гварнеры, набытай у Лондане па даручэнні Прэзідэнта Беларусі.

✔ Чатыры ўзнагароды прывезлі беларускія кінематаграфісты з XXI Міжнароднага кінафестывалю "Залаты Віцязь", які праходзіў у Омску. Стужкі Вольгі Дашук "Кінааматар. Асенні сон" і Сяргея Карцьера "Уяўны Парыж" атрымалі прызы "Срэбраны Віцязь" і "Бронзавы Віцязь" у намінацыі "Кароткаметражны дакументальны фільм". "Срэбраным Віцязем" была адзначана анімацыйная стужка Аляксандра Ленкіна "Дзед". Спецыяльны прыз Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі дастаўся Анатолю Алаю за дакументальны фільм "Бумеранг".

✔ На XXXI Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы (Польшча) першае месца заняў беларускі калектыў — Хор духавенства Гродзенскай праваслаўнай епархіі. Акрамя гэтага, спецыяльны прыз уручаны мужчынскаму хору Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Дні царкоўнай музыкі арганізуюцца ў Польшчы на працягу ўжо трыццаці гадоў. Сёлета яны праходзілі пад ганаровым патранатам прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага і з дабраславення Мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Поспехі і задачы

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Чарговае пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі прайшло ў сталічным Доме літаратара.**

Пасяджэнне было адкрыта выступленнем старшыні СПБ Мікалая Чаргінца, які ахарактарызаваў работу Саюза за першую палову 2012 года. Яна прайшла пад знакам усё большага ўзрастання важкасці слова пісьменніка ў краіне. Кіраўніцтва Беларусі звярнулася да пісьменніцкіх праблем, літаратары зразумелі дзяржаўны клопат Прэзідэнта і Урада і здолелі праз ініцыяваныя Кіраўніком дзяржавы паездкі па розных рэгіёнах Беларусі ацаніць той шлях, якім крочыць сёння краіна.

Аднак, як было адзначана, пэўныя хібы яшчэ не пераадолены, таму і супакойвацца нельга. Нават у межах правядзеня ў Беларусі Года кнігі нашых пісьменнікаў практычна не запрашаюць да ўдзелу ў айчынных тэлевізійных праграмах. Недастаткова ўдала складваюцца стасункі паміж беларускімі тэатрамі і драматургамі. У бібліятэках, асабліва раённых і вясковых, беларуская літаратура прадстаўлена пераважна кнігамі, выдадзенымі яшчэ ў XX стагоддзі. Пісьменнікі разгледзелі магчымасці выпраўлення становішча.

На Прэзідыуме была заслухана таксама справаздача старшыні Віцебскага аддзялення СПБ Тамары Красновай-Гусачэнкі, якая паведаміла прысутным, што члены Віцебскай пісьменніцкай арганізацыі за пяць месяцаў гэтага года здолелі правесці ўжо 300 сустрэч з чытачамі. Аднак гэта не значыць, што такая актыўная пазіцыя ўласцівая кожнаму з віцебскіх літаратараў. Некаторыя, хаця і знаходзяцца ў складзе Саюза пісьменнікаў, наўмысна адмяжоўваюцца ад дзейнасці ў рамках сваёй творчай арганізацыі, а нехта і наогул, можна лічыць, страціў сувязі з СПБ. Тамара Іванаўна прапанавала калегам падумаць пра перарэгістрацыю членаў Саюза.

Галоўны рэдактар літаратурнага часопіса "Белая Вежа" Васіль Шырко паведаміў членам Прэзідыума пра цяжкасці існавання выдання, якое не мае пастаяннага дакладна акрэсленага фінансавання, ганарарнага фонду і дагэтуль не ўключана ў паштовыя каталогі Беларусі і Расіі.

Вынікі паездак пісьменніцкіх дэлегацый у Гродзенскую вобласць і ў Падмаскоўе дзеля сустрэчы з пісьменнікамі Расіі на святкаванні юбілею Барадзінскай бітвы падвёў першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў.

На Прэзідыуме быў зацверджаны склад аргкамітэта па правядзенні рэспубліканскага конкурсу "Лепшы твор 2011 года", склад творчых секцый і прыёмнай камісіі. Таксама члены Прэзідыума разгледзелі пытанне прыняцця ў Саюз пісьменнікаў Беларусі 16 новых членаў.

# Дыялог зацікаўленых

Мікола ДЗМІТРЫЕЎ

У Пружанах адбылася сустрэча супрацоўнікаў цэнтральнай раённай бібліятэкі імя М. Засіма з Анатолем Крэйдзічам. Анатоль Мікалаевіч з'яўляецца галоўным рэдактарам Іванаўскай раённай газеты, але больш вядомы як празаік, аўтар шэрагу кніг, кіраўнік Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Натуральна, што і размова вялася пра тое, што аднолькава хвалюе тых, хто стварае кнігі, і тых, хто даносіць іх да чытача.

Анатоль Крэйдзіч расказаў бібліятэкарам пра набыткі, якіх у апошнія гады дамагліся пісьменнікі Брэстчыны, пра стан беларускай літаратуры ўвогуле і тыя праблемы, якія хвалююць майстроў прыгожага пісьменства.

Прысутныя не засталіся безуважнымі да падзей, што адбываюцца сёння ў пісьменніцкім асяроддзі. У прыватнасці, бібліятэкары цікавіліся ўзаемаадносінамі двух творчых саюзаў, якія цяпер дзейнічаюць у нашай краіне, палітыкай дзяржавы ў галіне кнігавыдання, выказвалі трывогу з нагоды таго, што графаманы літаральна запаланілі рынак сваёй нізкапробнай друкаванай прадукцыяй. У сувязі з гэтым Анатоль Крэйдзіч адзначыў, што кіраўніцтва СПБ таксама вельмі занепакоена такім станам спраў і таму бачыць неабходнасць у больш плённай рабоце з пачынаючымі таленавітымі аўтарамі, больш змястоўнай прапагандзе высокамастацкіх кніг, у тым ліку і не без удзелу работнікаў бібліятэк. Асабліва цяпер, у Год кнігі.

Безумоўна, не абышлося і без знаёмства з творчасцю госця. Пісьменнік прэзентаваў прысутным свае кнігі, прачытаў некалькі невялікіх твораў з іх.

Пружанскі паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Антаноўскі, які таксама прысутнічаў на сустрэчы, свой расповед пра творчыя набыткі падмацаваў выкананнем уласных новых вершаў.

## Фестывалі

# Пад Пакровам Гародні

**Вялікі Пакроў — палатно, сабранае з лапікаў тканіны, аздобленых адмысловымі ўзорамі народаў свету — прадстаўляўся на адкрыцці IX фестывалю нацыянальных культур. Ён прайшоў мінулымі выхаднымі ў Гродне, нязменнай сталіцы свята вось ужо цягам амаль двух дзесяцігоддзяў.**

Ірына ТУЛУПАВА

Заключны этап фестывалю праходзіць раз на два гады. А яго абласныя і рэгіянальныя туры пачынаюцца адразу пасля заканчэння фестывалю папярэдняга. Такім чынам, спрычыніцца да творчасці можа кожны, хто пажадае. З сярэдзіны 1990-х гадоў, калі ўпершыню ўзнікла ідэя падобнага форуму культур, да яго далучыліся 33 нацыянальныя аб'яднанні. Сёлета ў Гродна прыехалі больш як 150 мастацкіх калектываў і выканаўцаў розных нацыянальнасцей.

Удзельнікі пагаджаюцца: менавіта ў горадзе над Нёманам найбольш поўна можна рэалізаваць ідэю праекта. Адметны і запамінальны фестываль не толькі жыхарам Беларусі, а і еўрапейцам. У такім, як у нас, фармаце фестываляў у іншых краінах няма. Арганізатары мегасустрэчы — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, апарат Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, Гродзенскі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, а таксама мясцовыя органы ўлады. Галоўная тэма дзевяці праведзеных фестываляў — еднасць народаў, якія жывуць найперш на землях Беларусі, праз культуру і мову, праз высокае мастацтва. Але прысвячэнне кожнага свята нейкай падзеі ці каляндарнай даце відавочнае. Сёлета супольнасці паказвалі свята вясны. Як паведаміў нам намеснік Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Уладзімір Ламека, апарат гэтай установы, якая каардынуе працу з супольнасцямі, арганізаваў у Новым замку выстаўку "Беларусь шматнацыянальная", прэзентавалі таксама трэцяе выданне аднайменнага альбома (наклад — 2,5 тысячы асобнікаў). Удзельнікам ад нацыянальных супольнасцей гэта добры дапаможнік пры іх асветніцкай дзейнасці.

Тры дні, калі вуліцы Гародні шчыльна запаўняюцца жыхарамі ды гасцямі, розныя па сваім характары. Першы — дзень адкрыцця — урачысты і афіцыйны. Тут жа адбыўся "Зорны вечар у Гродне" — канцэрт прафесійных артыстаў рэспубліканскай і абласных філармоній і калектываў нацыянальных суполак.

Чаканы на фестывалі яго "сярэдні", другі, дзень, калі пачынаюць працу падворкі. Сёлета іх было каля 35. Між іншым, у розных эпізодах свята ўзяло ўдзел каля дзвюх тысяч гасцей. Гэта народныя майстры, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса і нават беларускіх дыяспар за мяжой, гарадоў-пабрацімаў. Апошнім, напэўна, цікава было назіраць падзеі дня трэцяга, калі горад, трошкі стомлены ад людской — шматгалосай — гаманы, паказваў на ўсёй прыгажосці сябе і свае скарбы: каралеўскі замак, вулачкі з даўняй брукаванкай, домікі — Ажэшкі і Багдановіча. З культурнай праграмай выступалі на трэцці дзень і калектывы нашых суайчыннікаў з замежжа. Традыцыйна ў фестывальныя дні адбываецца свята паэзіі. Сёлета яно праходзіла ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры.

## Свята паэзіі

# «Крыніцы душы» бруяць на «Пісьмянковым лузе»

**Няма на Магілёўшчыне, бадай, ніводнага раёна, які б, як Касцюкоўшчына, падарыў Беларусі такую вялікую гвардыю таленавітых паэтаў і пісьменнікаў — Аркадзя Куляшова, Аляксея Русецкага, Васіля Хомчанку, Івана Чыгрынава, Масея Сяднёва, Сямёна Пацёмкіна, Леаніда Леванoвіча, Алеся Пісьмянкова.**

Наталля АЗАРАНКА

Нездарма менавіта тут, на Касцюкоўшчыне, традыцыйна ладзіцца прыгожае свята паэзіі і аўтарскай песні. Спачатку яно насіла назву "Крыніцы душы". Пазней фестываль стаў прысвячацца памяці земляка, знакамітага паэта Алеся Пісьмянкова, і атрымаў новую назву — "Белы бусел над Бесяддзю". У год святкавання 95-годдзя з Дня нараджэння народнага паэта Аркадзя Куляшова свята паэзіі пашырыла свае межы — у яго рамках загучала аўтарская песня.

У мінулым годзе свята перанеслася на маленькую радзіму Алеся Пісьмянкова — вёску Бялынкавічы. І праходзіць яно на маляўнічым беразе ракі Бесядзь, лукавіна якой выгінаецца тут падковай на месцы, якое так і завуць у народзе — "Пісьмянкоў луг". Дагэтуль фэст меў рэгіянальны маштаб, але цікавасць культурнай і літаратурнай грамадскасці да яго расла. І ў гэтым годзе ў Бялынкавічах праходзіла ўжо абласное свята паэзіі і аўтарскай песні "Пісьмянкоў луг". Пасля ўрачыстага адкрыцця гісторыка-культурнага аб'екта "Пісьмянкоў луг" дзеянне перамясцілася на пляцоўку панад Бесяддзю, дзе прагучалі самыя лепшыя вершы, самыя цудоўныя песні, якія нарадзіліся тут, на Касцюкоўшчыне. Госці і ўдзельнікі свята мелі магчымасць атрымаць сапраўдную асалоду, слухаючы выступленні ўдзельнікаў абласнога конкурсу выканаўцаў аўтарскай песні, пераможцаў конкурсу маладых паэтаў Магілёўшчыны і паэтычных чытанняў, ганаровых гасцей свята, якія прыехалі з Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Прымалі тут і творчыя дэлегацыі з Бранскай вобласці Расіі.

У праграме свята ладзіліся канцэрт мастацкай самадзейнасці, вечарына паэзіі і аўтарскай песні "Будзем, людзі, шчаслівыя ўсе", канцэрт мастацкай самадзейнасці гасцей свята; сустрэча паэтаў і бардаў каля вогнішча на беразе ракі Бесядзь, а таксама танцавальна-забаўляльная праграма.

Варта адзначыць, што ўпершыню ў рамках свята праводзіліся конкурсы літаратурных выставак, якія прадставілі цэнтралізаваныя бібліятэчныя сістэмы вобласці. Сапраўдным упрыгажэннем сталі выстаўкі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

*Літабсягі*

# Імкліва прарастае слова

**Мінскія паэтычныя чытанні, прысвечаныя 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы, прайшлі ў Доме літаратара. Арганізатарам імпрэзы выступіла Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Вольга ПАЛОМЦАВА, фота Аляксандра Новікава**

Гучалі пранікнёныя радкі, прысвечаныя Купалу і навеяныя яго творчасцю, прасякнутыя любоўю да радзімы. Гарачымі апладысментамі віталі слухачы яркія радкі паэтаў Міхася Пазнякова, Навума Гальпяровіча, Уладзіміра Мазго, Вольгі Сакаловай, Змітрака Марозава, Міколы Шабовіча. Арганічна ўплятаялася ў шматгалоссе свята пяшчотная лірыка Таісы Трафімавай, Таццяны Лейкі і Лізаветы Палеес.

Прыемна ўразіла, калі з вершамі на беларускай мове выступілі жанчыны, якія звычайна пішуць па-руску, — Ала Чорная, Іна Саніна, што жыве ў далёкай Каліфорніі, і Вольга Норына. Вядучы імпрэзы — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў — падкрэсліў: "Нашу краіну лічаць родным домам прадстаўнікі многіх нацыянальнасцей, мы ўсе жывём у міры і згодзе". Доказам таму былі і гэтыя паэтычныя чытанні, дзе ў літаратурна-музычнай кампазіцыі гучалі па-польску Купалавы радкі пад гітару ў выкананні Ганны Чумаковай, у перакладзе на родную карацінскую мову дэкламаваў Песняра Хізры Асадулаеў.

Але паэты не толькі чыталі свае творы. Пра тое, як пад уплывам вершаў народнага паэта Беларусі, пачутых на вечары, арганізаваным падчас вайны, пайшоў у партызаны старэйшы брат і як адгукнуліся яны ў яго лёсе, расказваў Леанід Лукша. Юрый Сапажкоў распавёў гісторыю некаторых перакладаў Купалы на рускую мову. Песню "Ляцелі гусі" на верш Вольгі Сакаловай выканала Тамара Кашчэва, моцным акордам прагучала выступленне Таццяны Дашкевіч, якая прысвяціла песню "Адзінаццаць лебедзяў" Лізавеце Палеес.



*Таіса Трафімава, песня якой на музыку Алены Атрашкевіч стала гімнам абласнога фестывалю "Тучаць цымбалы на зямлі Купалы".*

У мемарыяльнай зале Дома літаратара не было вольных месцаў. Міхась Пазнякоў запрасіў усіх жадаючых на XII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, пляцоўкамі якога стануць філіялы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы, Яхімоўшчыне, бібліятэкі, канцэртныя і тэатральныя залы Маладзечна.

*Артлінія*

# Знакавая прэм'ера ў сябрыне муз

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

**Над праграмай канцэрта, які адбыўся ўчора ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, нашы музыканты працавалі разам з эстонскімі калегамі. Гэты творчы праект ажыццёўлены па ініцыятыве знанага эстонскага маэстра Эркі Пехха, які сёння працуе ў Мінску ў якасці запрошанага дырыжора Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. Арганізацыі канцэрта паспрыяла Пасольства Эстоніі ў нашай краіне.**



*Лаўрэат міжнародных конкурсаў Анатоль Сіўко, маэстра Эркі Пехх.*

Маэстра Эркі Пехх захоплены музыкай Дзмітрыя Шастаковіча і марыць сыграць усе яго сімфоніі. Да найсцладанай і шматпакутнай Трынаццатай з праграмнаю назвай "Бабий яр" і вершамі Яўгена Еўтушэнкі звярнуўся таму, што з'явілася магчымасць увасобіць яе ў цікавай выканальніцкай супольнасці. Прытым раскрыць новыя грані аркестра Белтэлерадыёкампаніі, запрасіць у Мінск Эстонскі нацыянальны мужчынскі хор пад кіраўніцтвам Міка Юлеоя (вядомая нам у савецкі час капэла легендарнага Г. Эрнесакса), прадставіць у партыі баса маладога беларускага саліста Анатоля Сіўко. Некалькі гадоў таму "ЛіМ" звярнуў увагу на гэтага спевака, калі ён выступаў у сталіцы разам з іншымі салістамі Маладзечанскага аркестра пад кіраўніцтвам Р. Сарокі. Неўзабаве А. Сіўко перамог на конкурсе маладых оперных спевакоў у Эстоніі, мастацкім кіраўніком якога быў Э. Пехх. Дырыжор запрасіў беларускага госця да ўдзелу ў сваіх творчых праектах, і поспех нашага земляка меў еўрапейскі розгалас. Ён выступіў і ў праграме II Міжнароднага фестывалю "Уладзімір Співаков запрашае".

Выкананне 13-й сімфоніі Д.Шастаковіча для Беларусі знамянальнае. Мастацкі кіраўнік БДФ Юрый Гільдзюк прыгадвае, як пасля маскоўскай прэм'еры 1962 г. гэты твор надоўга трапіў у лік забароненых. Аднак "чорны спіс" не адразу дакаціўся да Мінска, і дырыжор В. Катаеў паспеў тут выканаць сімфонію з поўным тэкстам Я. Еўтушэнкі. І праз паўстагоддзя яна прагучала ў нашай сталіцы зноў.

Адметнасць новага міжнароднага праекта яшчэ і ў тым, што дзякуючы энтузіязму Э. Пехха нарадзіўся ўнікальны эстонска-беларускі твор, сусветная прэм'ера якога таксама прагучала ўчора. З ідэяй напісаць штосьці арыгінальнае для гэтага канцэрта маэстра звярнуўся да аднаго з паспяховых суайчыннікаў — Марта Сіймэра. Кампазітар сам выбраў праз інтэрнэт беларускія вершы. Чалавек высокадухоўны, ён зацікавіўся творам Навума Гальпяровіча, прысвечаным старажытнаму сабору ў Полацку. Так нарадзіўся "Сабор" — твор для мужчынскага хору і аркестра, напісаны эстонскім кампазітарам на тэкст беларускага паэта. Падчас працы над партытурай М. Сіймэр, які ведае каля паўтара дзясятка моў, пачаў вучыць беларускую — каб асэнсаваць мелодыку кожнага слова...

Пасол Эстоніі ў Беларусі Яак Ленсмент перакананы, што нашы краіны вельмі блізкія па культуры, па духу і маюць агульныя старонкі ў гісторыі. А новы музычны праект пацвярджае ўзаемаразуменне і ўмацоўвае сяброўства.

*Повязі*

# У Белгарад — па міжнародную прэмію

**Паэтэса, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка ўзнагароджана літаратурнай прэміяй "Прохараўскае поле". Паэтычны двухтомнік "Спас" і публікацыі ў літаратурных часопісах "Наш современник" і "Белая вежа" прынеслі ёй перамогу ў намінацыі "Паэтычны твор духоўнага зместу".**



*Т. Краснова-Гусачэнка прымае віншаванні з перамогай ад старшыні папячыцельскага савета "Прохараўскае поле" М. Рыжкова і губернатара Белгарадскай вобласці Я. Саўчанкі (справа).*

**Ларыса ІВАНОВА, фота аўтара**

Міжнародная літаратурная прэмія была заснавана ў 1999 годзе Саюзам пісьменнікаў Расіі, кіраўніцтвам Белгародскай вобласці, Белгародскай і Стараасокольскай епархіяй і Дзяржаўным ваенна-гістарычным музеем-запаведнікам "Прохараўскае поле" і прысуджаецца дзеячам літаратуры і мастацтва, у творчасці якіх у высокамастацкай форме сцвярджаюцца ідэі маральнасці, патрыятызму, нацыянальнага гонару і адданага служэння свайму народу і Айчыне. Уручэнне прэміі адбываецца адзін раз на два гады ў рамках літаратурна-патрыятычных чытанняў "Прохараўскае поле". Міжнароднай прэмія стала ў 2010 годзе. Тады сярод яе лаўрэатаў быў названы таксама ўраджэнец Віцебшчыны, вядомы беларускі пісьменнік Алесь Савіцкі.

Пяць цікавых дзён правяла Тамара Краснова-Гусачэнка ў складзе дэлегацыі пісьменнікаў Расіі ў творчай паездцы па Белгародскай вобласці. Яна брала ўдзел у "Прохараўскіх чытаннях", выступала перад студэнтамі, працоўнымі калектывамі, супрацоўнікамі бібліятэк і чытачамі ў Белгарадзе і раённых гарадах Аляксееўка і Стары Аскол. Паэтэса перадала жыхарам Белгарада прывітанне і кнігі ад пісьменнікаў Беларусі.

*З-пад пяра*

➤ Па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ў сталічным парку імя Максіма Горкага адбылося ўрачыстае адкрыццё пісьменніцкіх алей. Цяпер тут можна прагуляцца па алеях Якуба Коласа і Янкі Купалы, Івана Мележа і Міхася Лынькова, Янкі Маўра і Васіля Віткі. А непасрэдна перад адкрыццём прайшло літаратурнае свята, на якім выступілі пісьменнікі Міхась Пазнякоў, Уладзімір Ліпскі, Мікола Чарняўскі, Ніна Галіноўская і Маргарыта Яфімава. З часам у парку плануецца праводзіць літаратурныя сустрэчы, кніжныя выстаўкі, прэзентацыі.

**Павел КУЗЬМІЧ**

➤ Літаратурны музей Петруся Броўкі прапанаваў наведаць выстаўку "Стылягі — адважныя дэндзі краіны Саветаў". На ёй прадстаўленыя самыя розныя рэчы гэтай субкультуры ў СССР, якая атрымала шырокае распаўсюджванне ў канцы 1940-х — пачатку 1960-х гадоў. Захапленне ў наведвальнікаў выклікала музычная частка вечара і майстар-клас Андрэя Бузука, выкладчыка Школы танцаў Юліі Шостак. Джазавая музыка дарыла добры настрой на працягу ўсяго вечара. Дзячат асабліва зацікавіў майстар-клас па прычосках, якія былі модныя ў другой палове мінулага стагоддзя.

**Дар'я ШОЦІК**

➤ Вядомыя пісьменнікі Уладзімір Саламаха і Алесь Марціновіч выступілі перад вучнямі сталічнай школы № 73 і гімназіі № 18 у Дзіцячай бібліятэцы № 2. Да сустрэчы супрацоўнікамі бібліятэкі была старанна падрыхтавана кніжная выстаўка, якая прадстаўляла творчасць гасцей. Уладзімір Саламаха параіў школьнікам занатоўваць успаміны сваіх дзядуль і бабуль. Пра герояў багатай беларускай гісторыі распавёў Алесь Марціновіч. Напрыканцы сустрэчы госці падарылі бібліятэцы "Энцыклапедыю Победы" і ўласныя кнігі з аўтографамі.

**Вольга КАХНОВІЧ**

➤ "І сёння іх творы надзённа гучаць" — пад такой назвай у Валожынскім раённым Цэнтры культуры прайшоў конкурс выкананаўцаў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ініцыятарам яго стала народнае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь". Удзел у конкурсе ўзялі вучні 12 школ раёна. Лепшымі інсцэніроўкамі сталі прапанаваныя калектывамі Ракаўскай, Івянецкай, Каменскай школ урыўкі з паэм Якуба Коласа "Новая зямля" і "Сымон-музыка", а таксама сцэнка з п'есы Янкі Купалы "Паўлінка". Сярод індывідуальных выканаўцаў асабліва вызначыліся Каця Мандрык, якая чытала маналог Паўлінкі, Маша Маркоўская, якая прадставіла верш Купалы "Сын і маці", Саша Карэйва, які надзвычай удала выканаў ролю Мужыка з казкі Коласа "Жыў-быў пан…" Яны і іншыя вучні-чытальнікі ўзнагароджаныя дыпломамі і каштоўнымі падарункамі.

**Валянціна РУСАКЕВІЧ**

➤ Традыцыйна на пачатку лета Алесь Камоцкі запрашае сяброў і прыхільнікаў сваёй творчасці на чарговую сустрэчу, якая, па словах барда, "адбудзецца пры любым надвор'і". 10 чэрвеня а 19-й гадзіне ў сталічным Палацы пазашкольнай работы "Золак" (Партызанскі праспект, 146) ён прапануе слухачам не толькі добра знаёмыя, але і новыя песні і вершы, якія ўвайшлі ў кнігу "Навошта было мінулае", што ўбачыла свет у гэтым годзе.

**Вольга НОРЫНА**

*Глыбокае-2012*

# Што неабходна для творчасці?

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

***Падчас апошняй камандзіроўкі ў будучую сталіцу Дня беларускага пісьменства нам пашчасціла пабываць на ўрачыстым канцэрце, прысвечаным Святу Перамогі. Мяркуючы па рэакцыі залы, канцэрт ветэранам вайны, іх дзецям і ўнукам спадабаўся. І нам таксама, што стала зачэпкай для сустрэчы з начальнікам аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама Таццянай Малатоўнік. Крыху пазней мы даведаліся, што гэтая маладая, абаяльная жанчына яшчэ і салістка народнага тэатра фальклору "Цярэшка".***

**— Кажуць, "Цярэшка" — візітка раёна.**

— Так, ён створаны па прынцыпе народнага тэатра Ігната Буйніцкага, нашага земляка, заснавальніка беларускага нацыянальнага тэатра. Першай гульнёй, якая ўвайшла ў рэпертуар, стала "Жаніцьба Цярэшкі", што і дало назву калектыву, які імкнецца захаваць пераемнасць традыцый. Выконваем народныя песні, гумар, бытавыя танцы, гульні, карагоды Глыбоччыны. "Цярэшка" — неаднаразовы лаўрэат і дыпламант абласных, рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў, конкурсаў.

Хачу падкрэсліць: зацікаўленасць і зберажэнне песенна-танцавальнага мастацтва з'яўляецца для нашых творчых калектываў сэнсам жыцця. Мы ўсведамляем, што народныя традыцыйныя песні жывуць вякамі і здольныя задавальняць эстэтычны густ і патрэбу розных пакаленняў.

**— І шмат такіх калектываў у раёне?**

— Не паверыце — 208! З іх 19 народных. Найбольш вядомыя — народны ансамбль народнай песні "Крынічанька" гарадскога Дома культуры, народны тэатр мініяцюр "Ідучыя на смех", узорны тэатральны калектыў з Падсвілля, народная эстрадная вакальная студыя "Архіў", народны клуб ветэранаў вайны і працы "Маналіт", узорны ансамбль эстраднага танца "ВераНіка", народны камерны хор, узорны духавы аркестр, народны тэатр мініяцюр "Шпілька" і многія іншыя.

**— На Глыбоччыне здзейснена шмат экспедыцый па вывучэнні фальклору, сямейнай абраднасці. Ці існуе "спецыялізацыя" калектываў мастацкай самадзейнасці?**

— Кожны з іх мае сваю адметнасць. Скажам, у рэпертуары фальклорнага гурта вёскі Шо — песенныя жанры, танцавальны фальклор, абрады. У Запрудскім доме фальклору вельмі цікава праходзяць абрады "Калядныя — бліны ладныя", "Валачобнікі", вячоркі, "Калі госці на парог, трэба вынесці пірог", "Велікодная вечарына", "Да свята Хрыстова Дня", фальклорныя гадзіны "Ой рана-рана на Яна", "Ілья лета канчае, жніво пачынае"… У Дзеркаўшчыне адроджаны абрады "Гуканне вясны", у Бабічах — "Дажынкі", у Азярцы — "Тройца". Паверце, цяжка па памяці пералічыць усіх сапраўдных захавальнікаў мясцовых традыцый. Дарэчы, адзін з іх — маладзёжны абрадавы гурт гарадскога Дома культуры, які спявае на польскай мове, праводзіць каталіцкія Каляды, Вялікдзень, з'яўляецца пастаянным і актыўным удзельнікам такіх народных свят, як "Масленіца", "Купалле" і іншых.

Разумееце, як па тварах пазнаюць чалавека, так і па песні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар і душа.

**— На ваш погляд, што неабходна для творчасці?**

— Радасць! Ёсць свае радасці ў кожным відзе творчасці, уся справа ў тым, каб умець знаходзіць дабро. І заўсёды заставацца задаволеным.

**— Вы маеце на ўвазе і работы глыбоцкіх майстроў?**

— Наш раён заўсёды славіўся сваімі кавалямі, бондарамі, ганчарамі, ткачамі, швеямі… Дакладна вядома, што з Варшавы ў Глыбокае прыязджалі паны, каб замовіць брычку, карэту. Дзякуючы майстру Аляксандру Дубіне адроджана рамяство кавальства. Кованкі, зробленыя ім і членамі кааператыва "Дэкор", таксама з'яўляюцца візітнай карткай Глыбокага.

Сёння ў Доме рамёстваў працуюць гурткі па ганчарстве і лепцы з гліны, саломапляценні, аплікацыі саломкай, вышыўцы, карункапляценні, ткацтве на кроснах, выяўленчым мастацтве і роспісе па палатне, разьбе і роспісе па дрэве, вырабе беларускай абрадавай лялькі, ткацтве паясоў, лозапляценні. У філіяле, што ў гарадскім пасёлку Падсвілле, вучаць дзяцей майстэрству вышыўкі, аплікацыі саломкай і разьбе па дрэве. Але асаблівая ўвага ўдзяляецца развіццю такога рамяства, як маляваныя дываны. Метадыстам Марыі Ермаловіч, Веры Байковай за плённую працу прысвоена званне "Народны майстар Беларусі".

Іншымі словамі, народ бязмежна багаты ў сваёй мастацкай творчасці. І мы вучымся ў народа.

**— Таццяна Леанідаўна, давайце яшчэ раз успомнім канцэрт да Дня Перамогі. Адкуль у вас столькі барабаншчыкаў, трубачоў, танцораў, кожнае выступленне якіх сустракалі на "біс" і "брава"?**

— У раёне дзве школы мастацтваў, чатыры дзіцячыя музычныя школы, 74 установы культуры, у тым ліку 31 — клубнага тыпу. У Глыбоцкай дзіцячай школе мастацтваў займаюцца 260 навучэнцаў. У ёй працуе шэсць аддзяленняў і тры ўзорныя калектывы: духавы, хор, харэаграфічны калектыў народнага танца "Радасць".



*Народны тэатр фальклору "Цярэшка".*



*Таццяна Карнеева — дырэктар Дома рамёстваў.*

**— Скажыце, калі ласка, што можна запісаць у актыў самадзейных калектываў народнай творчасці за мінулы год?**

— Пералік добрых і карысных спраў уражвае, назаву толькі некаторыя з іх. Народны тэатр мініяцюр "Ідучыя на смех" удастоены Дыплома І ступені ў абласным аглядзе-конкурсе маладзёжных аматарскіх тэатраў "Тэатральныя даляглядзы вёскі". Другое месца ў абласным конкурсе "На зямлі Святой Сафіі" прысуджана выступленням самадзейных артыстаў гарадскога Дома культуры. Народны драматычны калектыў Дзеркаўшчынскага цэнтра культуры ўзнагароджаны дыпломам ІІІ ступені ў абласным аглядзе-конкурсе "Тэатральныя даляглядзы вёскі". І гэты спіс можна доўжыць.

**— Як справы з платнымі паслугамі?**

— Іх 78 відаў. За студзень — май зароблены амаль 191 мільён рублёў.

**— І апошняе — Свята беларускага пісьменства…**

— Для нас гэта і радасць, і шчасце, і клопаты, і надзеі… Усе ўстановы, творчыя калектывы рыхтуюцца дастойна пакazаць свае майстэрства. Думаю, што госці будуць задаволены. Актывізавалі сваю дзейнасць бібліятэкі. У цэнтральнай сёння працуе 27 клубаў па інтарэсах. У народнай літаратурна-музычнай гасцёўні "Сустрэчы для душы" ладзяцца вечарыны з пісьменнікамі, музыкамі, мастакамі, у тым ліку з Мінска і Віцебска. Галоўная мэта — папулярызацыя кнігі і музыкі, духоўнае ўдасканаленне, пашырэнне сувязей з творчай інтэлігенцыяй.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**

*Юбілеі*

# Час ягонай прысутнасці

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

**7 чэрвеня вядомаму пісьменніку Міхаілу Герчыку споўнілася б 80 гадоў. Аднак юбілеі прыходзяць і сыходзяць. Гэтак, як і жыццё. А кнігі застаюцца. Багата іх напісаў і Міхаіл Герчык. Гуманістычныя і чалавечныя па сваёй сутнасці, перакладзеныя на добры дзясятак замежных моў, у васьмідзясятых і дзевяностых гадах мінулага веку яны выдаваліся масавымі тыражамі і былі надзвычай папулярныя ў розных пакаленняў чытачоў. Ды і ў новым стагоддзі перачытваюцца з неаслабнай цікавасцю.**

Галоўныя з іх — раманы "Аддаеш назаўсёды" (1970), "Здабыццё надзеі" (1976), "Вяртанне да сябе" (1989), зборнікі аповесцей і апавяданняў "Зямное прыцяжэнне", "Дзе жывуць чараўнікі", "Самае сіняе неба", мастацка-публіцыстычная аповесць "Час гаспадароў", шматлікія кнігі для дзяцей і школьнікаў. Трэба сказаць, творы празаіка, які з аднолькавым поспехам пісаў на рускай і беларускай мовах, вызначаюцца навізною тэмы, паўнакроўнымі мастацкімі вобразамі і характарамі, прыцягваюць увагу востарым і цікавым, вельмі часта — займальным сюжэтам, добра распрацаванай кампазіцыяй. Справа ў тым, што пісьменнік даследаваў складаныя калізіі жыцця, цяжкія лёсы людзей, іх пакуты і імкнуўся паказаць усё лепшае і прывабнае ў чалавеку, таму ў ягоных празаічных кнігах няма выпадковых, прахадных герояў. Нездарма нават самы першы раман "Аддаеш назаўсёды" яшчэ ў рукапісе быў адзначаны прэміяй на Усесаюзным літаратурным конкурсе імя М. Астроўскага.

Міхаіл Герчык як па-сапраўднаму таленавіты празаік меў багата творчых удач, бо дужа любіў людзей, жадаў ім простага чалавечага шчасця, жыў іх трывогамі і болем, і гэта, бадай, можна вытлумачыць тым, што ў яго і самога быў нялёгкі жыццёвы лёс, галоднае і халоднае, апаленае вайною, дзяцінства. Нарадзіўся ён 7 чэрвеня 1932 года ў сям'і бабруйскіх рабочых. Дапытлівы хлапчук, будучы пісьменнік, у 10-гадовым узросце разам з маці і братам быў эвакуіраваны ў Нова-Пакроўскі раён Арэнбургскай вобласці, дзе сям'я працавала ў калгасе, а Міхаіл пасвіў кароў. Дамоў вярнуліся толькі пасля вызвалення Беларусі, позняй восенню 1944 года.

Родны горад Бабруйск ляжаў у руінах, матчыну вялікую радню фашысты расстралялі ў гета. Бацька ў першыя дні вайны пайшоў на фронт і загінуў, абараняючы Маскву. Вось так балюча і сурова для Міхаіла Герчыка пачалася жыццёвая дарога. Дзякуючы маці, якая працавала на фабрыцы "Чырвоны тэкстыльшчык", здольны падлетак паспяхова скончыў сямігодку і Мінскае педвучылішча, затым вучыўся ў БДУ на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта і аднachасова працаваў у рэдакцыі газеты "Зорька". Пра гэты "школьны" перыяд у сваёй творчасці пісьменнік мала згадвае, аднак яго шматлікія дакументальныя нарысы і апавяданні, надрукаваныя ў часопісах "Вясёлка" і "Бярозка", газетах "Піянер Беларусі" і "Зорька", сведчаць, што ён глыбока разумеў дзіцячую душу, асаблівую ўвагу звяртаў на станаўленне характараў падлеткаў. Акурат гэтымі якасцямі вызначаюцца многія кнігі для падрастаючага пакалення "Вецер рве павуцінне", "Аповесць пра залатую рыбку", "Сонечны круг", "Ляці, Ікар!", "Галінка зялёнага дрэва" і іншыя.

Сам творца быў добры і зычлівы па натуры, таму ён вельмі хацеў, каб усе дзеці раслі шчаслівыя, не ведалі бяды і гора. Невыпадкова працы ў школьных выданнях і ў дзіцячай рэдакцыі на радыё Міхаіл Герчык аддаў больш як дзесяць гадоў жыцця, потым, да выхаду на пенсію, гэтак жа самааддана працаваў старшым рэдактарам у выдавецтвах "Беларусь" і "Мастацкая літаратура". Важна зазначыць: менавіта тут арыгінальны пісьменнік выявіўся і як самабытны перакладчык, пераствараўшы на рускай мове кнігі многіх беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, такіх, як, скажам, С. Міхальчук, А. Пальчэўскі, Х. Жычка, М. Вадановсаў, У. Ягоўдзік. Без пахвальбы скажу, што нейкім чынам на вочы цудоўнаму перакладчыку патрапіла і мая першая юнацкая аповесць "Дом з блакітнымі аканіцамі" і на пачатку 1984 года была надрукавана ў часопісе "Нёман", чым я і сёння дужа ганаруся.



Зразумела, Міхаіл Герчык, як і кожны таленавіты пісьменнік, што не думае пра ўласныя выгады, пакінуў пасля сябе і сваю галоўную кнігу — гэта шматпланавы сацыяльны раман "Пагоня за міражом", прысвечаны зараджэнню ў былой савецкай краіне класа алігархаў і прадпрымальнікаў, вяртанню ўлады "залатога мяшка", які часта штурхае людзей на самыя жорсткія злачынствы. Фабула твора такая. Трое сяброў-аднакурснікаў арганізоўваюць кніжнае выдавецтва пад сімвалічнай назвай "Афрадыта", друкуючы дэтэктывы, крывавыя трылеры, жаночыя любоўныя раманы, і хутка робяцца багатымі, але паступова сяброўства, дружба змяняюцца зайздрасцю і нянавісцю, таму што кампаньёны не могуць падзяліць мільённыя прыбыткі. Спрэчка заканчваецца банальным у гэтых выпадках забойствам. Пераможца ходзіць узнёсла-радасны, але пісьменнік рубам ставіць пытанне: ці шчаслівы забойца? У першапачатковай версіі раман так і называўся: "Зброя для забойцы". Пазней Міхаіл Герчык свой твор істотна перапрацаваў, і ў параўнанні з часопісным варыянтам атрымаўся захапляльны сучасны псіхалагічны трылер, дзе ёсць усё: дабро, злосць і нянавісць, любоў і самаахвяраванне, гатоўнасць аддаць жыццё за любімага чалавека. Асобным выданнем важкі том у каляровым пераплёце выйшаў у мінскім выдавецтве "Тонпік" яшчэ ў 2008 годзе — акурат у год смерці знанага пісьменніка.

Цяжкі і шматпакутны час, калі творца жыў і працаваў на гэтай грэшнай зямлі, глыбока і праўдзіва адлюстраваны ў ягоных раманах, аповесцях, апавяданнях, нарысах, якія Міхаіл Герчык пакінуў у спадчыну сваім нашчадкам.

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Юрыя Іванова

# Зберагчы культурнае асяроддзе

**З 8 па 10 чэрвеня ў Маладзечне праходзіць XII Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Сёння пра здабыткі сферы культуры Міншчыны распавядае начальнік упраўлення культуры Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Анатоль Акушэвіч.**



**— Анатоль Леанідавіч, прысталічча — рэгіён асаблівы. Ён як бы зніто́ўвае Мінск і рэгіёны. Напэўна, тут як нідзе праяўляецца самае яскравае і адметнае, што мы маем.**

— Так, Міншчына — цэнтральны рэгіён Беларусі. У яе культуры сканцэнтраваліся рысы, характэрныя для суседніх рэгіёнаў, аднак яна мае і асаблівасці.

На працягу некалькіх стагоддзяў славу зямлі мінскай прымнажалі прадстаўнікі знаных родаў Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Агінскіх, Прушынскіх, Ваньковічаў, Ельскіх, Чапскіх, якія заклалі на Міншчыне сядзібна-паркавыя комплексы (радавыя маёнткі). Яны былі ў свой час сапраўднымі цэнтрамі культуры, а сёння з'яўляюцца помнікамі гісторыі і культуры. І цяпер імкнёмся прапагандаваць ды ўдала выкарыстоўваць гэтыя аб'екты.

Пры імклівым развіцці сучаснага мастацтва не забываемся і на мастацтва традыцыйнае. У Мінскай вобласці эфектыўна падтрымліваюцца, узнаўляюцца і развіваюцца рамёствы. Як вядома, любая ўжытковая рэч у народных традыцыях не толькі валодала ўтылітарнымі функцыямі, але адлюстроўвала светаўспрыманне, народную філасофію, сістэму духоўных і маральных каштоўнасцей, паказвала творчы пацэнцыял нацыі. Праз святы і конкурсы, якія штогод праходзяць у розных рэгіёнах Міншчыны, мы ашчадна ахоўваем і актыўна падтрымліваем гэты кірунак і, безумоўна, майстроў, якія з'яўляюцца носьбітамі традыцыйнай культуры.

Імкнёмся крочыць разам з часам і прапануем сучаснай, маладой і крэатыўнай Міншчыне паслухаць вытанчаны джаз у выкананні юных музыкаў на пляцоўках Салігорска, наведаць міні-праграмы лепшых дыскатэк Мінскай вобласці ў Слуцкім маладзёжным цэнтры, паспрабаваць сябе ў спаборніцтве альтэрнатыўнай культуры ў Клецкім раённым цэнтры, адшукаць і заўважыць цікавую моладзь сям'ю і далучыць яе да творчага кола.

Штогод ладзім больш як 20 культурных мерапрыемстваў абласнога і рэспубліканскага ўзроўню. Словам, ствараем культурную палітру на ўсе густы.

Адметна і тое, што на Міншчыне склалася сістэма стымулявання і падтрымкі ініцыятывы творчых асоб. Яшчэ ў 1999 годзе аблвыканкам заснаваў грант і 10 спецыяльных прэмій у розных намінацыях, якія штогод прысуджаюцца лепшым з лепшых. Па ініцыятыве кіраўніцтва аблвыканкама адбываецца ўручэнне прэміі ў намінацыі "Чалавек года", дзе таксама адзначаюцца работнікі культуры.

**— Сёлета ў рэгіёне насычанае жыццё: культурнай сталіцаю Беларусі ў 2012 годзе абраны Нясвіж. Чым здзівіць горад сваіх жыхароў і гасцей?**

— Культурнае жыццё на Міншчыне ва ўсе часы было яркім і бурлівым, а Нясвіж — візітка не толькі Міншчыны, але і Беларусі. Вялікі гонар усведамляць, што сталіцай культурнага жыцця абраны Нясвіж. Разумеем і адказнасць, бо сустрэчы тут — гэта не толькі святы і фестывалі, а і культура ў самым шырокім яе разуменні: ад інфраструктуры, эстэтыкі і добраўпарадкавання горада і яго вясковых артэрый да самых разнастайных паслуг.

У горадзе вірующь культурныя падзеі. Днямі прайшоў "Нясвіжскі фэст", які аб'яднаў у творчае кола гарманістаў, прыпевачнікаў, саломапляцельшчыкаў, аматараў фальклору. Раней адбыліся свята мастацтваў "Музы Нясвіжа", конкурс прыгажосці "Князь і Князёўна Нясвіжа", канцэрты Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча і маладзёжнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Влады Беражной. Увогуле, у рамках рэспубліканскай акцыі "Культурная сталіца 2012 года" адбудзецца больш як 50 значных мерапрыемстваў, якія адлюструюць найбольш яркія з'явы нацыянальнай і сусветнай культуры. У ліку адметных — фестываль опернага і балетнага мастацтва "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў", міжнародны конкурс-пленэр мастакоў імя М. Сеўрука, канцэрт "Вялікае княства музыкі" ў межах міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета, паказы спектакляў прафесійных тэатраў краіны, баль "Рэха стагоддзяў" у Нясвіжскім замку і іншыя.

На тэрыторыі горада сёння 19 аб'ектаў, якія маюць статус гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Па сутнасці, гэта ўнікальныя аб'екты архітэктуры, шэраг з якіх не мае аналагаў на ўсёй тэрыторыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

У 2011 годзе аб'екты музея-запаведніка наведалі больш як 210 тысяч чалавек. Сярод іх 5 тысяч — гэта замежныя грамадзяне, пераважна з Польшчы, Германіі, Літвы, Францыі, Кітая.

**— Літаратура стагоддзямі адыгрывала вялікую ролю ў культуры. Найбольш вядомыя пісьменнікі, чыё 130-годдзе мы адзначаем сёлета — Янка Купала і Якуб Колас, — таксама з Міншчыны. Можа, сёння ўжо можна сказаць, што стане галоўным у святкаванні юбілеяў на малой радзіме Песняроў?**

— Так, мы маем гонар працаваць на зямлі, дзе шчыравалі Якуб Колас, Янка Купала, Максім Танк. Гэта таксама наш духоўны скарб і, безумоўна, клопат пра тое, каб іх паэтычная спадчына гучала, а памяць годна ўшаноўвалася.

Сярод маштабных мерапрыемстваў святкавання юбілеяў Песняроў — Рэспубліканскае свята паэзіі, песні і народных рамёстваў "З адною думкаю аб шчасці Беларусі…", якое адбудзецца ў ліпені ў вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна, і Рэспубліканская свята паэзіі "Мой родны кут, як ты мне мілы!" — у кастрычніку ва ўрочышчы Бервянец Стаўбцоўскага раёна. Таксама з імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа будзе звязана правядзенне з сённяшняга дня па 10 чэрвеня XII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. У маі ўжо адбыліся абласное свята-конкурс народнай музыкі "Сымон-музыка" на Стаўбцоўшчыне і VIII абласны злёт маладых паэтаў Міншчыны "Слова Купалы да творчасці кліча" на Лагойшчыне, у славутых Акопах, што сталі творчай калыскай паэта. У чэрвені рыхтуецца адкрыццё ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі выстаўкі "Шляхамі Песняроў" з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа і абласнога краязнаўчага музея.

Заўважу, што народныя паэты Беларусі мелі дачыненне да Нясвіжчыны: Якуб Колас у Нясвіжы скончыў настаўніцкую семінарыю, а Янка Купала працаваў у Снове на бровары.

**— Якія выбітныя культурныя падзеі дапоўняць каляндар Міншчыны да канца года?**

— Святочны каляндар лета пасля Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2012" працягнуць дзіцячае свята цацкі і гульні ў Салігорскім раёне, рэспубліканскія святы харавога мастацтва "Пеўчае поле" ў Мядзеле і свята паэзіі на Маладзечаншчыне, прымеркаванае да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы. Таленавітыя юныя мастакі Міншчыны стануць удзельнікамі абласнога пленэру "Фарбы роднай зямлі" ў Чэрвеньскім раёне. У вераснёўскія дні Жодзіна запросіць маладых эстрадных выканаўцаў нашай краіны на "БелАЗаўскі акорд", да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка ладзім свята паэзіі і песні ў Мядзеле. Сваё першае дзесяцігоддзе восеньскімі днямі адзначыць абласны фестываль народнай творчасці "Напеў зямлі маёй" на Пухавіччыне, Барысаў стане сталіцай маштабных мерапрыемстваў, прымеркаваных да 200-годдзя вайны 1812 года, Стаўбцоўшчына гасцінна павітае Коласавым словам на Рэспубліканскім свяце паэзіі, а завершыць разнастайную палітру культурных падзей абласны фестываль народных тэатраў "Бярэзінская рампа".

> *"Культура дазваляе чалавеку станавіцца духоўнай, маральнай, творчай асобай. Яна фарміруе ўнутраны свет, раскрывае асобу. Зберажэнне культурнага асяроддзя — задача не менш значная, чым зберажэнне навакольнага, — так калісьці сказаў акадэмік Ліхачоў, падкрэсліваючы значнасць культуры ў жыцці чалавека.*

**— Згодна з вамі, што культура — гэта паўсядзённая творчасць. І побач са словам "культура" часта ўжываюцца іншыя: натхненне, талент, прыгажосць, духоўнасць. А ці варта тады ўмешвацца ў яе, нейкім чынам рэгламентуючы развіццё?**

— Культура дазваляе чалавеку станавіцца духоўнай, маральнай, творчай асобай. Яна фарміруе ўнутраны свет, раскрывае асобу. Зберажэнне культурнага асяроддзя — задача не менш значная, чым зберажэнне навакольнага, — так калісьці сказаў акадэмік Ліхачоў, падкрэсліваючы значнасць культуры ў жыцці чалавека.

**— Як на ваш погляд, ці пазначыліся апошнімі гадамі змены ў адносінах да культуры з боку дзяржавы?**

— Сёння палітыка дзяржавы ў галіне культуры скіравана, перадусім, на стварэнне эканамічных і арганізацыйна-прававых умоў развіцця галіны, забеспячэнне эфектыўнай дзейнасці ўсёй яе інфраструктуры. Паняцці "культура — дзяржава" і "дзяржава — культура" цесна знітаваныя. Сёння дзяржава стварае культурную палітыку, якая рэалізуецца праз бюджэт, заканадаўства, легітымнасць усіх гэтых ці іншых культурных падзей.

Нельга не адзначыць дзейсную падтрымку таленавітых людзей нашай краіны з боку дзяржавы, у прыватнасці, фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, штогадовую прэмію "За духоўнае адраджэнне". Адзначу і створаны пры Урадзе Грамадскі савет па развіцці культуры і мастацтва, у складзе якога прадстаўнікі таленавітай моладзі, творчай эліты Беларусі.

На Міншчыне штогод з поспехам рэалізуецца каля 25 культурных праектаў, у тым ліку і рэспубліканскага ўзроўню, фінансавы падмурак якіх у поўнай меры забяспечваецца бюджэтнымі сродкамі.

Толькі ў мінулым годзе ўведзены ў эксплуатацыю Чысцінскі сельскі дом культуры і амфітэатр у Маладзечанскім раёне, Любанская і Мар'інагорская школы мастацтваў, за апошнія пяць гадоў пабудаваны клубныя ўстановы ў вёсках Вежы Слуцкага, Будслаў і Занарач Мядзельскага раёнаў, рэканструяваны 6 устаноў культуры вобласці.

Гарантам далейшага развіцця сферы з'яўляецца Дзяржаўная праграма "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гг.

Прынцыпова важна для нас, і такую пазіцыю падтрымлівае Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, ствараць нацыянальныя прэферэнцыі. Такім чынам замацоўваецца статус і роля беларускай культуры ў грамадстве.

А ўвогуле, культурная палітыка любой краіны, у тым ліку Рэспублікі Беларусь, вызначаецца дзяржавай і разглядаецца як водгук на аб'ектыўныя запатрабаванні соцыуму.

**— А з боку недзяржаўнага сектара? Ці можам мы сёння гаварыць пра дзяржаўна-прыватнае партнёрства як факт нашага жыцця?**

— Адным з элементаў нацыянальных прэферэнцый для культуры якраз з'яўляецца ўвядзенне льготнага падаткаабкладання для тых, хто фінансава падтрымлівае сферу культуры (мецэнаты, спонсары). На Міншчыне прыватныя прадпрымальнікі спансіруюць некаторыя творчыя дэбюты і наватарскія маладзёжныя праекты. Дарэчы, у Маладзечне ААТ "ЭНЭФ" і яго кіраўнік Наталля Галота на працягу шэрагу гадоў падтрымліваюць заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь — сімфанічны аркестр Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага па рэалізацыі міжнародных творчых праектаў. Рэалізавацца творчым пачынанням устаноў культуры таксама дапамагаюць ЗАТ "Дзіліс касметык" (дырэктар Эдманд Шэміс), ААТ "Белпрамкультура" (дырэктар Аляксандр Гузоўскі), гандлёвая сетка "Электрасіла" (дырэктар Тамара Сідарава), ААТ "Маладзечанскі завод металавырабаў" (дырэктар Дзмітрый Андрэеў)… І такіх прыкладаў шмат! Пачалі дзейнічаць і створаныя пры ўстановах апякунскія саветы.

Цяпер мы клапоцімся пра фарміраванне пазітыўнага вобраза горада, вёскі, раёна — з тым, каб яны былі прывабнымі для інвестыцый.

Між іншым, у нас ёсць прыклад адраджэння гісторыка-культурных каштоўнасцей пасля іх наб́ыцця ў прыватную ўласнасць. Так быў адноўлены сядзібна-паркавы комплекс в. Сула Стаўбцоўскага раёна. У 2011 годзе сялянская фермерская гаспадарка "Панскі Маёнтак" прыняла першых наведвальнікаў.

**— Як вы думаеце, чалавек у сферы культуры сёння пачувае сябе камфортна?**

— У Мінскай вобласці 1528 устаноў культуры і мастацтва. Па сутнасці, дом культуры, вясковы ці раённы, бібліятэка, школа мастацтваў, музей — гэта цэнтры грамадскага жыцця.

Я ганаруся тым, што працую побач з такімі творчымі асобамі, як Іосіф Сушко, Яўгенія Піліпеня, Рыгор Сарока, Георгій Чорны — заслужаныя работнікі культуры Рэспублікі Беларусь, Алена Атрашкевіч — член Беларускага саюза кампазітараў, дэпутат Палаты Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Аляксей Шут, Валянціна Шуракова, Галіна Слесарэнка, Лізавета Пятроўская, Сяргей Выскварка, Людміла Рауцкая, Ларыса Рыжкова і многія іншыя. Менавіта такія асобы складаюць гонар галіны культуры, і побач з імі камфортна кожнаму.

Культура мае каштоўную ўласцівасць спалучаць мінулае, сучаснае і будучае. У гэтым яе адметнасць і прывабнасць. Хтосьці з вялікіх сказаў, што жыццё любой дзяржавы і цэлых народаў па-за культурай бессэнсоўнае. Цалкам згодны з гэтым тэзісам і таму лічу сваёй асноўнай задачай ствараць неабходныя ўмовы для зберажэння і захавання спрадвечных традыцый. А таксама падтрымліваць тых апантаных працаўнікоў устаноў культуры, якія абралі гэтую прафесію. Работнікі культуры — гэта частка беларускай інтэлігенцыі, яны часцей дбаюць пра іншых, забываючыся пра сябе.

# На шляху развіцця літаратурнай кампаратывістыкі ў Беларусі

**У сучасных умовах глабалізацыі, калі пашыраецца прастора для ўзаемных кантактаў у розных сферах грамадскага жыцця, у тым ліку і ў гуманітарыстыцы, прыкметна ўзрастае роля кампаратывістыкі. Гэты перспектыўны напрамак літаратуразнаўчых даследаванняў скіраваны не толькі на выяўленне тыпалагічнага падабенства мастацкіх з'яў у творчасці айчынных і замежных аўтараў, але і на раскрыццё адметнасці нацыянальнага пісьменства, вызначэнне яго ўнёску ва ўзбагачэнне духоўнасці свету. Усведамленне гэтых прынцыпаў стала асновай для практычнай дзейнасці тых даследчыкаў, чый навуковы лёс у розныя часы быў звязаны з аддзелам узаемасувязей літаратур Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.**

Алена ВАЛЬЧУК

Гісторыя яго пачалася ў 1961 годзе, калі ў складзе Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы быў утвораны сектар, узначалены доктарам філалагічных навук Н. Перкіным. Неўзабаве пабачылі свет навуковыя даклады В. Барысенкі і В. Івашына "Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX ст.", а таксама А. Лойкі і Н. Перкіна "Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XX ст.", прымеркаваныя да V Міжнароднага з'езда славістаў, які адбыўся ў 1963 г. Акрамя таго, у тым жа годзе была выдадзена брашура Л. Цімашковай "Беларуска-балгарскія літаратурныя сувязі". Відавочна, што першапачаткова адным з прыярытэтных напрамкаў даследчай дзейнасці навукоўцы абралі славістыку, у межах якой разглядаліся актуальныя пытанні культурна-літаратурнага ўзаемадзеяння блізкароднасных народаў.

Традыцыйна айчынныя кампаратывісты асаблівую ўвагу надавалі беларуска-ўкраінскім сувязям. У выніку калектывам аўтараў (В. Барысенка, Ю. Пшыркоў, М. Лынькоў, А. Мальдзіс і інш.) была падрыхтавана і выдадзена кніга "Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура" (1964), дзе асоба Кабзара і яго творчасць асэнсоўваліся ў кантэксце нацыянальнага пісьменства перыяду адраджэнскага ўздыму. Выхад у свет на працягу 1960 — пачатку 1970 гг. прац А. Мальдзіса "Творчае пабрацімства" (1966) і "Падарожжа ў XIX ст." (1969), Н. Перкіна "У сям'і братніх літаратур" (1967), В. Гапавай "Эліза Ажэшка: жыццё і творчасць" (1969), а таксама калектыўных зборнікаў "Садружнасць літаратур" (1968) і "Старонкі літаратурных сувязей" (1970) не толькі засведчыў пашырэнне тэматыкі славістычных даследаванняў, але і ў многім акрэсліў далейшыя перспектывы іх развіцця.

Нягледзячы на тое, што ў 1970 г. сектар узаемасувязей літаратур перапыніў сваё існаванне ў якасці самастойнай структурнай адзінкі Інстытута, навукоўцы, якія працавалі ў ім, па-ранейшаму не пакідалі па-за ўвагай актуальныя пытанні кампаратывістыкі. Пацвердзілі гэта і тэмы дакладаў, у прыватнасці, А. Адамовіча "Белорусская проза в контексте мировой классики (современный выбор путей развития)", В. Гапавай "О некоторых типологических общностях белорусской и польской прозы 50 — 60-х годов XIX века", В. Зайцава "Идейный комплекс "гуманизм — реформация — контрреформация" в его единстве и противоречиях (по материалам Чехии, Польши и Белоруссии)" і інш., прапанаваныя беларускімі вучонымі для ўдзелу ў Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Сравнительное изучение славянских литератур", якая адбылася 18 — 21 мая 1971 г. у Маскве.

У першай палове 1970-х айчыннае параўнальнае літаратуразнаўства ўзбагацілі кнігі Э. Мартынавай "Беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад" (1973), У. Казберука "Ступені росту: беларуская літаратура канца XIX — пачатку XX стагоддзя і традыцыі польскіх пісьменнікаў" (1974), В. Каваленкі "Вытокі. Уплывы. Паскоранасць: развіццё беларускай літаратуры XIX — XX ст." (1975), засведчыўшы надзённасцьтыпалагічна-супастаўляльнага вывучэння беларускага і іншанацыянальнага пісьменства, падкрэсліўшы неабходнасць яго пашырэння ў будучым.

Запатрабаванасць кампаратывістыкі, скіраванасць на вырашэнне яе прыярытэтных задач садзейнічалі таму, што ў 1976 г. быў адноўлены сектар узаемасувязей літаратур, загадчыкам якога стаў А. Адамовіч. Выданні, падрыхтаваныя даследчыкамі ў другой палове 1970-х і на працягу 1980-х гг., засведчылі, што ў гэты час вучоныя значную ўвагу надавалі асэнсаванню беларуска-славянскіх узаемаўплываў (брашура В. Каваленкі "Некаторыя асаблівасці параўнальнага вывучэння славянскіх літаратур запозненага развіцця", кніга А. Мальдзіса "На скрыжаванні славянскіх традыцый: літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII — XVIII стст.)"), раскрыццю асаблівасцей творчага ўзаемадзеяння на савецкай прасторы (Э. Мартынава, Н. Перкін, М. Тычына "Адзінства і ўзаемаўзбагачэнне: пытанні ўзаемасувязей савецкіх літаратур"), а таксама пашыралі абсягі айчыннай кампаратывістыкі, выводзілі яе на новы ўзровень (В. Жыбуль "Беларуская проза пра вайну і класічная трагедыя", У. Сакалоўскі "Беларуская літаратура ў ГДР" і інш.)

Знакавым этапам у навуковым жыцці сектара стала падрыхтоўка і выданне "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей", чатыры кнігі якіх пабачылі свет на працягу 1993 — 1995 гг. Улічыўшы досвед папярэднікаў і абапіраючыся на новыя метадалагічныя напрацоўкі, аўтары паказалі шырокую панараму ўзаемадзеяння ўсходнеславянскіх літаратур, пачынаючы ад старажытнасці і заканчваючы 90-мі гадамі XX ст. Не менш значнай працай, у якой закрануты праблемы міжславянскага культурна-літаратурнага дыялогу, стаў зборнік "Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспект праблемы", які выйшаў з друку ў 2002 г. Імкнучыся надаць новы імпульс развіццю гэтага напрамку, супрацоўнікі ўжо аддзела ўзаемасувязей літаратур В. Локун, У. Мархель і Ж. Шаладонава сумесна з украінскім навукоўцам Г. Піўтараком узялі ўдзел у выкананні міжнароднага праекта "Культурна-гістарычныя беларуска-ўкраінскія сувязі: літаратурна-моўны аспект".

Асэнсаванне актуальных пытанняў кампаратывістыкі дазволіла айчынным вучоным не толькі вылучыць і адлюстраваць этапныя моманты міжнацыянальных узаемаўплываў, але і акрэсліць кола тэм, неабходнасць у распрацоўцы якіх наспела ў сувязі са зменамі ў сацыякультурным жыцці грамадства. Зыходзячы з гэтага, супрацоўнікі аддзела Т. Барысюк, А. Вальчук, А. Данільчык, У. Казбярук, В. Локун, С. Мінскевіч, Ж. Шаладонава пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук У. Мархеля прыступілі да выканання планавага задання "Беларуская літаратура ў кантэксце славянскіх літаратур XIX — XX стст.", завершанага ў 2003 г. Як вынікае са зместу аднайменнага калектыўнага зборніка, выдадзенага ў 2006 г., аўтарам удалося раскрыць спецыфіку гістарычна-культурных умоў, у якіх адбывалася станаўленне беларускага пісьменства на новым этапе яго развіцця, выявіць асаблівасці міжлітаратурных узаемасувязей у вызначаны перыяд не толькі на ўзроўні кантактаў, але і тыпалогіі творчасці, адзначыць як падабенства, так і адрозненне мастацкіх сістэм айчынных аўтараў і Т. Шаўчэнкі, М. Канапніцкай і інш., абумоўленыя іх светапоглядам і прыналежнасцю да пэўнага ідэйна-эстэтычнага кірунку.

Паколькі ранейшыя падыходы да асэнсавання такой складанай і супярэчлівай з'явы, як рамантызм, патрабуюць удакладнення, у аддзеле распачалася праца над тэмай "Еўрапейскі рамантызм і беларуская літаратура XIX — XX стст.", лагічным завяршэннем якой стала выданне ў 2008 г. адпаведнай манаграфіі. Выкарыстанне сучаснага навукова-метадалагічнага інструментарыя дазволіла аўтарам раскрыць адметнасць рамантычнай паэтыкі ў творчасці Янкі Купалы і Т. Шаўчэнкі (Ж. Шаладонава), паказаць спецыфіку ўвасаблення топасаў, канатацыйна звязаных з паняццем "патрыятызм", у прадстаўнікоў беларуска-італьянскага літаратурнага дыскурсу (А. Данільчык), вывучыць спосабы інтэрпрэтацыі рамантызму А. Міцкевіча беларускімі паэтамі XX ст. (С. Мінскевіч), выявіць у спадчыне Янкі Купалы і іспанскіх рамантыкаў і неарамантыкаў тыпалагічна блізкія элементы (А. Вальчук), адлюстраваць формы рэалізацыі рамантычнага светабачання ў сучаснай беларускай паэзіі (Т. Барысюк), скласці бібліяграфічны агляд англамоўных прац, прысвечаных міцкевічазнаўству (С. Скамарохава).

Актывізацыя міжнародных інтэграцыйных працэсаў засведчыла, што адным з базісаў паспяховага цывілізаванага сужыцця ментальна адрозных народаў павінна стаць агульная сістэма маральна-этычных каштоўнасцей, шырока прадстаўленых у сусветнай літаратуры. Аб'яднаўчую сутнасць духоўнага патэнцыялу мастацтва слова раскрываюць раздзелы Ж. Шаладонавай "Прыродна-рэчыўная прастора ў творах Я. Коласа, М. Гогаля і Т. Шаўчэнкі", І. Гаравой "Англійская паэзія ў Беларусі", А. Вальчук "Рэцэпцыя "Дон Кіхота" Сервантэса ў беларускай літаратуры", С. Мінскевіча "Айчына і абавязак у гістарычнай прозе У. Караткевіча і Я. Івашкевіча", Т. Барысюк "Пошукі бессмяротнасці ў сучаснай беларускай і рускай паэзіі", Н. Бахановіч "Беларуская тэма ў польскай літаратуры", выкананыя ў межах планавага задання "Беларуская і еўрапейскія літаратуры ў агульнай прасторы маральных каштоўнасцей", завершанага ў 2010 г.

На дадзеным этапе супрацоўнікі аддзела пад кіраўніцтвам кандыдата філалагічных навук У. Мікуліча працуюць над выкананнем навукова-даследчага праекта "Нацыянальныя тыпы ментальнасці ў беларускай і еўрапейскіх літаратурах: ідэйна-эстэтычная спецыфіка, стылявая эвалюцыя, перакладчыцкая інтэрпрэтацыя", імкнучыся на матэрыяле творчасці як айчынных, так і замежных пісьменнікаў раскрыць асаблівасці ментальнасці беларускага народа, адлюстраваць непаўторнасць яго светаадчування.

Высокі прафесійны ўзровень беларускіх літаратуразнаўцаў, глыбіня і змястоўнасць іх даследаванняў годна прэзентуюць айчынную кампаратывістыку, сведчаць пра перспектыўнасць развіцця гэтага напрамку ў будучым.

*Да 130-годдзя Якуба Коласа*

Галіна АДАМОВІЧ

# Бёрнс і Колас: запавет любові

**У кожнай нацыі ёсць імёны, якія пазначаюць яе гістарычныя шляхі. Так і ў кожнай краіны ёсць свае вяршыні, не адзначаныя на геаграфічнай карце, але якія ўзвышаюцца над усім, сімвалізуючы веліч і незнішчальнасць чалавечага духу. Бёрнс і Колас — у гэтых двух імёнах закладзена велічная сіла нараджэння, сіла зямлі, упартасць жыцця. Гэтыя імёны — сімвалы жыццядайных пачаткаў тых народаў, што атрымалі ад паэтаў самы галоўны запавет: любоў.**

Мы кажам: Роберт Бёрнс — і маем на ўвазе Шатландыю. Мы кажам: Шатландыя — і ў гэтай назве гучыць імя: Роберт Бёрнс.

Гэтаксама як Колас і Беларусь: таму што каласы, купалле — гэта адзнакі беларускага краю, занатаваныя на зямных разлогах, у памяці.

Паэт нарадзіўся ў вёсцы Алаўэй на паўднёвым захадзе Шатландыі. Былі студзеньскія маразы: "Радзіўся хлопчык на зары / І ўраз зайшоўся з плачу. / Радзін яго ў календары / Гісторык не адзначыў…" — "Зато отметил календарь, / Что был такой-то государь / И в щели дома дул январь, / Когда родился Робин".

Малая радзіма — гэта тое, што назаўсёды застаецца з чалавекам. Як казаў адзін з балгарскіх паэтаў XX ст. Весялін Ханчаў, "кожны павінен мець свой куток святы, які трэба абараняць да канца". І побач з гэтым Бёрнсава: "Між гор маё сэрца, заўсёды між гор, / дзе думам раздолле і вольны прастор. / Сачыць за аленем, зайздросціць арлам. / Між гор маё сэрца. Любоў мая там…"

Сэрца паэта там, дзе яго любоў. Любоў паэта там, дзе яго сэрца. Пра гэта ж пісаў і Якуб Колас. І калі ў Бёрнса яго святы куток на зямлі — горны шатландскі край, "снягоў абрус…", то родныя мясціны Коласа — там, дзе "каля пасады лесніковай цягнуўся гожаю падковай стары, высокі лес цяністы…"

Паэтам можа быць толькі той, хто любіць. І той, хто любіць, — паэт. Вялікія словы нараджаюцца толькі ад вялікай любові. Вершы аратая Бёрнса нарадзіліся ад вялікай любові да ўсяго жывога, што ўзрасло на зямлі: "Горнай маргарытцы, заараной маім плугам", "Пра падбітага зайца, які прачыкільгаў каля мяне", "Палявой мышы, гняздо якой заарана маім плугам".

З вялікай любоўю звяртаецца паэт Бёрнс да лепшых людзей свайго краю ў вершах "Торскі хлопец", "Макферсан перад пакараннем смерцю", "За дружбу. Шатландская застольная", "За тых, хто далёка": "За чэсць і адвагу / спарожнім біклагу, / вясёлым і мудрым — дабра! Сумленным, праўдзівым — дабра!"

"Не бядуй, што снег халодны / скрые зямлю ад вачэй: / Не загіне край твой родны / У тэй цемені начэй!" — піша Якуб Колас.

Вера, надзея, любоў. Сіла, упартасць, жаданні, каханне… — гэта сіла зерня, коласа на роднай зямлі: "Не згінуў Джон Ячмень. / Жывы — жыве! Як у катле, / пад абручом бурліць, / прэ пенай з кубкаў на стале / і душу весяліць".

Бёрнс — гэта зерне, маладое, упартае, жывое…

І Колас — гэта зерне. І колас нараджаецца з зерня і дзеля зярнят.

Зерне падае ў раллю.

"Будзе час, і снег растане, / Прыйдзе зноў да нас вясна, / Ветла з неба сонца гляне, / Ачуняе старана!" — піша Якуб Колас.

І сапраўды, — адказвае Бёрнс, — "прыйшла вясна, на той загон / дажджы не раз прайшлі. / І ўсім на здзіва ўпарты Джон / падняўся з-пад раллі".

І іх ужо шмат, шмат каласоў на роднай зямлі. "Ён, жыццялюб і жартаўнік, буяе ў дождж і ў суш".

Таму што Бёрнс — гэта зерне, гэта колас шатландскай зямлі: "З ім не павесіш галаву, што б ні было ў жыцці…"

"Шатландцы! Сыдземся ж у круг", — кажа Бёрнс.

"Беларусы!" — кажуць Купала, Колас.

"Беларусы! Паплечнікі! Сябры!" — кажам мы: "Сыдземся ж у круг застолля ў ясны дзень і грымнем: — Джон, пачніце круг. Вам — слова, Джон Ячмень!"

**Уладзімір ЛАЙКОЎ,
фота Уладзіміра Крука**

# У свет шырокі бласлаўляў…

**Вячаслаў Пятровіч Рагойша. Гэтае імя роднае не толькі для мяне, але і для дзясяткаў, соцень і нават тысяч былых студэнтаў, якія вывучалі гісторыю і тэорыю літаратуры, для шматлікіх прафесіяналаў і аматараў беларускага слова і верша. Вельмі часта згадваю аднаго з самых мудрых выкладчыкаў роднай альма-матар. І позірк часта спыняецца на адной з кніжных паліц маёй бібліятэкі, дзе пачэснае месца займаюць навуковыя працы і кнігі Вячаслава Пятровіча.**

У наша студэнцкае жыццё Вячаслаў Рагойша ўваходзіў сваімі заўсёднымі, але для нас па першым часе вельмі нязвыклымі словамі і выразамі: “мабыць”, “прынамсі”, “на належным узроўні”, “дарэчы”… Але найперш — сваёй надзвычайнай апантанасцю і бязмежнай любоўю да беларускага слова, вобраза, радка, верша… І канечне, сваёю няспешнай інтэлігентнасцю, сялянскай памяркоўнасцю, асаблівай пашанай да кожнага студэнта, да кожнай творчай (а такімі лічыў нас усіх) асобы.

Не скажу, каб мы ад самага пачатку з’яўляліся прыхільнікамі аднаго толькі Вячаслава Пятровіча. Бо тагачасны наш філалагічны факультэт быў славуты яшчэ і імёнамі Міхася Ларчанкі, Івана Навуменкі, Дзмітрыя Бугаёва, Алеся Адамовіча, Кузьмы Хромчанкі, Вольгі Казловай, Алега Лойкі, Рыгора Семашкевіча, Маргарыты Яфімавай…

Але ён уразіў адразу. Тым болей што амаль легендарнай падавалася гісторыя пра яго надзвычай абаяльную, прыгожую і вельмі разумную жонку, дачку львоўскага прафесара Таццяну Кабржыцкую, пра іх вяселле стагоддзя, дзе прысутнічала ўся літаратурная і культурная эліта Беларусі, а тамадой быў паэт у душы, арыгінальны Рыгор Ларчанка, які якраз пачынаў чытаць у нас курс лекцый па старажытнай літаратуры, суправаджаючы іх дэкламаваннем на памяць цэлых анталогій вершаў. А поруч студэнцкі фальклор даносіў звесткі пра надзвычайную адоранасць Вячаслава Рагойшы, яго выключную эрудыцыю і начытанасць, у чым хутка ўсе пераканаліся. Самы малады з кагорты небажыхароў (якраз у гэты час мы знаёміліся з антычнай міфалогіяй, таму асацыяцыі не павінны выклікаць здзіўлення), нібы гуляючы, як тая эолава арфа, што нараджае гук, не паказваючы інструмента, лёгка і свабодна аперыраваў такімі паняццямі з тэорыі літаратуры, пра якія мы не толькі нічога не ведалі, але нават не чулі, і толькі тады міжволі ўсведамлялі, што літаратура, дзеля якой прыйшлі ва ўніверсітэт, — гэта не толькі мастацтва, але і сапраўдная складаная навука. І для такога абуджэння аўдыторыі малады вучоны меў усе падставы. За ягонымі плячыма была бліскуча абароненая дысертацыя па творчасці М.Танка і манаграфія “Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша” (Мінск, 1968). І цяпер загаловак гэтай працы ўражвае сваёй заглыбленасцю ў сутнасць даследуемай праблемы, а што казаць пра тыя часы, калі звыклымі тэмамі кандыдацкіх былі *рэвалюцыйныя матывы, сацыяльная праблематыка, вобраз самага чалавечнага з людзей* і г.д. Дэбют Вячаслава Рагойшы аказаўся надзвычай удалым, манаграфія да гэтага часу не страціла сваёй актуальнасці. А пасля выхаду яна была сапраўдным бестселерам, я добра памятаю зачытаныя экземпляры на кафедры, а з чытальнай залы вынес апошні асобнік, бо вырашыў паводле ўзору мэтра пісаць манаграфію пра творчасць Р. Барадуліна.



З тых студэнцкіх гадоў трымціць маё сэрца, калі бяру ў рукі гэтую кнігу сённяшняга доктара філалагічных навук, прафесара, акадэміка Міжнароднай акадэміі Еўразіі. Нават у знешнім афармленні прысутнічае святая беларуская сакральнасць колераў, радуе чытацкае сэрца блакіт нашага сімвалічнага васілька. А рэдактарам гэтай кнігі з’яўляецца сам Міхась Рыгоравіч Ларчанка.

Сваё даследаванне паэтыкі Максіма Танка малады тады яшчэ вучоны пачынае з верша пра цыгана-вандроўніка Квэка, што памяняў сваю волю на непатрэбны чын. Тут жа Вячаслаў Пятровіч цытуе Аляксандра Даўжэнку: “Манія. Усе прагнуць пасад. Да смерці не зразумею, чаму так лезуць да пасад. Што можа быць лепш за канкрэтную працу, уменне стварыць канкрэтную каштоўнасць для свайго грамадства!” І гэтая, і ўсе наступныя навуковыя працы Вячаслава Рагойшы былі створаны для роднай Беларусі. І ні ў воднай з іх, шаноўны чытач, вы не знойдзеце якой-небудзь кан’юнктуры, ніводная з гэтых прац не была кар’ернай.

> *“Кнігі Вячаслава Рагойшы настольныя і для студэнта, і для настаўніка славеснасці, і для дацэнта з прафесарам дзякуючы арыгінальнаму спалучэнню, здавалася б, неспалучальнага — прастаты выкладу і грунтоўнасці пададзенага матэрыялу.*

А колькі сталых, прызнаных і разам з імі маладых паэтаў-пачаткоўцаў “прыгарнуліся душой” да цудоўных кніг — “Паэтычны слоўнік” і “На шляху да Парнаса. Даведнік маладога літаратара”!

Вячаслаў Рагойша, несумненна, галоўны тэарэтык літаратурнага працэсу Беларусі. І не толькі таму, што ўзначальвае кафедру тэорыі літаратуры БДУ і з’яўляецца галоўным экспертам ВАКа, але ў першую чаргу дзякуючы сваім грунтоўным, фундаментальным даследаванням па сістэмах вершаскладання і жанравых структурах сусветнай і беларускай літаратуры. У сваіх працах “Гутаркі пра верш: Метрыка. Рытміка. Фоніка”, “Паэтычны слоўнік”, “Тэорыя літаратуры ў тэрмінах” ён па сутнасці ўпершыню ў айчыннай навуцы пра літаратуру зрабіў найгрунтоўнейшы аналіз нацыянальнай версіфікацыі на шырокім еўрапейскім і сусветным фоне, здолеўшы ўпісаць эвалюцыю беларускіх жанравых формаў у сілавое поле сусветных традыцый. Кнігі Вячаслава Рагойшы настольныя і для студэнта, і для настаўніка славеснасці, і для дацэнта з прафесарам дзякуючы арыгінальнаму спалучэнню, здавалася б, неспалучальнага — прастаты выкладу і грунтоўнасці пададзенага матэрыялу. Па сутнасці, яны сталіся компасам, які дапамагае не заблукаць па дарозе ў краіну навукі пра сутнасць паэзіі. Наогул, тэорыя вершаскладання, як і жанравая структура канкрэтнай літаратуры, — справа надзвычай складаная і не вельмі ўдзячная. Ці не таму далёка не кожны з прафесійных літаратараў згодны займацца ёю без астатку, бо не заўсёды ўпэўнены ў пасляховай рэалізацыі задумы. Вячаслаў Пятровіч не пабаяўся цяжкасцей: ужо ў згаданай першай кніжцы пра паэтыку М. Танка ён глыбока прааналізаваў рытміка-інтанацыйную структуру свабоднага верша ў цесным узаемадзеянні са зместам. І гэта тады, калі працэс фарміравання самой сістэмы верлібра яшчэ не быў завершаны. Затым ён прыйшоў да высновы пра неабходнасць сістэмнага разгляду верша. І мы ў педагагічнай практыцы ніяк не можам абысціся без кніг Вячаслава Пятровіча.

Сам мэтр добра ведае школу, любіць настаўнікаў, бачыць у іх сваіх маладзейшых калег, якіх патрэбна далучыць да вялікай справы. І многія з вучняў, адгукаючыся на шчырасць і дабрыню настаўніка, станавіліся яго паплечнікамі.

Згадваецца, як невялічкая група студэнтаў (Іван Зяньковіч, Мікола Зуеў, Хведар Ляшкевіч, Іван Штэйнер) з маладым тады яшчэ Вячаславам Пятровічам адправілася ў аднадзённае падарожжа ў славутую Вільню. Яшчэ ў цягніку наш выкладчык расказваў, а потым па прыездзе і дэманструе мясціны, звязаныя з Янкам Купалам, Кастусём Каліноўскім, Цёткай. Сталі мы, узрушаныя, ля храма Святой Ганны і слухаем радкі Максіма Багдановіча, якія натхнёна дэкламуе Вячаслаў Пятровіч:

*Изломом строгим*
*в небе ясном*
*Встаёт, как вырезной, колосс.*
*О, как легко*
*в порыве страстном*
*Он башенки свои вознёс!*

“Уюнашамі”, як калісьці называў маладых людзей незабыўны Міхась Лынькоў, мы разам з Вячаславам Пятровічам раным-раненька выпраўляліся ў Нясвіж, сённяшнюю культурную сталіцу Беларусі. Ад той незабыўнай паездкі раз і назаўсёды наш любімы выкладчык застаўся не толькі дасканалым знаўцам гісторыі і тэорыі літаратуры, але і чалавекам, які адчувае сакральную повязь з сівой мінуўшчынай свайго краю. Гэта потым ужо, дзякуючы творам Уладзіміра Караткевіча, мы пашыралі свае гістарычныя далягляды. А тады, на пачатку сямідзясятых, малады і апантаны ўніверсітэцкі выкладчык сыпаў жменямі зернейкі пазнання на нашу юную духоўную глебу, каб з цягам часу з’явіліся важкія і спелыя каласы сапраўднай шчырай беларускасці.

> *“Ён уразіў адразу. Тым болей што амаль легендарнай падавалася гісторыя пра яго надзвычай абаяльную, прыгожую і вельмі разумную жонку, дачку львоўскага прафесара Таццяну Кабржыцкую, пра іх вяселле стагоддзя, дзе прысутнічала ўся літаратурная і культурная эліта Беларусі.*

Адметнай і на ўсё жыццё запамінальнай была сумесная вандроўка ў верасні 1973 года ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку. Іенскі ўніверсітэт, літаратурныя мясціны Ваймара (Гётэ і Шылер), Дрэздэнская карцінная галерэя, радзіма Ліста, парк Сан-Сусі, Патсдам і, канечне, Берлін. Гэтыя мясціны чулі нашыя доўгія размовы, дыспуты, спрэчкі, філасофскія развагі. Былі шматлікія знаёмствы з нямецкімі аднагодкамі, людзьмі старэйшых пакаленняў, а таксама пэўнае, тады яшчэ негалоснае, пераасэнсаванне былога і сённяшняга, спроба зазірнуць у будучае. Ужо не выкладчыкам і нават не кіраўніком нашай дэлегацыі, а добрым і сапраўдным сябрам у тыя дні быў і заставаўся потым наш Вячаслаў Пятровіч.

А колькі было цікавых сустрэч, калі гурткоўцы пісалі навуковую працу “Літаратура і БДУ”, у якой пад кіраўніцтвам В. Рагойшы спрабавалі паказаць тую ролю, што адыграла наша alma mater у станаўленні беларускага прыгожага пісьменства. Праца была выкананая на сур’ёзным навуковым узроўні, невыпадкова яна атрымала дыпломы і граматы Міністэрства адукацыі. Іх, дарэчы, Вячаслаў Пятровіч уручыў на Купалавай Радзіме, падчас сяброўскай сустрэчы студэнтаў БДУ і Іенскага ўніверсітэта імя Ф. Шылера.

Вячаслаў Пятровіч Рагойша з’яўляецца настаўнікам для ўсіх філолагаў рэспублікі, незалежна ад таго, у якой ВНУ яны набывалі адукацыю, бо менавіта па яго кнігах і падручніках і адбываецца сапраўдныя ўваходзіны кожнага студэнта і настаўніка ў навуку пра літаратуру.

Так склалася, што пры кожнай сустрэчы з ім я заўсёды адкрываў нешта новае, асаблівае, надзвычайнае. Як гэта было, напрыклад, 8 і 9 снежня 1984 года, калі Вячаслаў Пятровіч наведаўся ў маю назаўсёды родную Мётчу.

Амаль 30 гадоў прамінула з тых памятных дзён. Але дагэтуль згадваю, як свяціліся радасцю вочы старшых і малодшых школьнікаў. А сёння тыя былыя вучні распавядаюць ужо сваім дзецям пра вядомых паэтаў і вучоных. У школьным музеі “Літаратурны космас Мётчы” ў Кнізе ганаровых гасцей Вячаслаў Пятровіч разам са сваімі калегамі пакінуў запіс: “Са шчырым хваляваннем вітаем настаўнікаў і вучняў паэтычнай Мётчанскай школы. Няхай жа спрыяе вам у працы, вучобе літаратура наша родная, няхай натхняе, выхоўвае рукі і душы! Дзякуй вам за сустрэчу, хлеб-соль, гасцінец!” Таксама ў гэтым музеі захоўваюцца кнігі з аўтографамі Вячаслава Рагойшы.

У памяці ўзнікаюць радкі з верша Алега Лойкі “Ракаўскія валы”, прысвечанага Вячаславу Пятровічу:

*Стагоддзяў дух —*
*забытых, паўзабытых,*
*Не менш складаных,*
*чым сягоння час,*
*Што нас ляпілі крута,*
*самавіта*
*І у свет шырокі*
*бласлаўлялі нас…*

Няхай беларускае неба і далей спрыяе шаноўнаму Вячаславу Рагойшу, дасылае яму і яго сям’і здароўе, натхненне, мудрасць і любоў!

**Паэзія і музыка заўсёды крочаць поплеч. Пра гэта яшчэ раз сведчыць XII нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі, што гэтымі днямі адбываецца ў Маладзечне. Даём слова аўтару многіх папулярных песень, якія выконваюць А. Ярмоленка, Я. Паплаўская і А. Ціхановіч, Я. Навуменка, В. Дайнека, І. Афанасьева, І. Дарафеева, Алеся, А. Хлястоў, Д. Качароўскі і іншыя, удзельніку яшчэ першага нацыянальнага фестывалю "Маладзечна-93", паэту Уладзіміру Мазго.**
**І падтрымліваем ягоны заклік: "Спявайце песню родную!"**


Уладзімір Мазго

## Адкрыўшы занава Нясвіж

*Ты, хадою натомлены,*
*Спіш.*
*Табе сніцца славуты Нясвіж,*
*Дзе мінуўшчына моцна здзівіла,*
*Як скарбонка князёў Радзівілаў.*

*Табе сняцца былыя часы,*
*Што сатканы,*
*Нібы паясы,*
*З успамінаў*
*І светлых надзей,*
*У сагрэты адкрыццямі дзень.*

*Недзе ў Альбе шчыруюць майстры,*
*Каб у памяці нашай стварыць*
*Залатыя, як сон,*
*Паясы*
*Незвычайнай і рэдкай красы.*

*Шолах ветру*
*Ці аркушаў кніг*
*Адаб'ецца,*
*Што спынены міг,*
*Трапятаннем начным увушшу,*
*Навылёт пранізаўшы душу.*

*Нібы ў казку вярнуўшыся,*
*Спіш.*
*Пошчак крокаў палохае ціш.*
*Хто ідзе там у цемры наступны?*
*— Сымон Будны!*

## Руіны Наваградскага замка

*Бліжэй да сэрца*
*Прыгарну я*
*Сівых стагоддзяў даўніну,*
*Дзе ранак*
*Сонцам каранує*
*У неба ўзнятую сцяну.*

*Нам расказаць*
*Пра ўсё павінны,*
*Дадаць*
*Адвечнага цяпла*
*Руіны велічнай краіны,*
*Што лёсам дадзена была.*

*Руіны,*
*Што дасюль маўчалі,*
*Распачынаюць гаварыць*
*Пра тых,*
*Каго даўней вянчалі*
*Тут непахісныя муры.*

*Бліжэй да сэрца*
*Прыгарну я*
*Сівых стагоддзяў даўніну,*
*Дзе ранак*
*Сонцам каранує*
*У неба ўзнятую сцяну.*

## Іду па вуліцах Гародні

*Іду па вуліцах Гародні,*
*Дзе сонейка —*
*Ярчэй паходні —*
*Усе высвечвае двары,*
*І новы горад,*
*І стары.*

*Іду па вуліцах Гародні*
*І адкрываю*
*Край свой родны,*
*Шырокі*
*І ў вяках глыбокі,*
*Нібыта Нёман сінявокі.*

*Іду па вуліцах Гародні,*
*Дзянёк вітаючы пагодны,*
*Што прывядзе мяне*
*І заўтра —*
*Да храма,*
*Замка*
*І тэатра...*

* * *

*Я слухаю*
*мелодыю дажджу,*
*Які зайграў*
*на клавішах лістоты*
*І наталіў,*
*і акрыліў душу*
*Лагодным дакрананнем*
*кожнай ноты.*

*Я слухаю*
*мелодыю дажджу,*
*Стварыў якую*
*вопытны маэстра.*
*І вы яе паслухайце,*
*прашу,*
*Нібы канцэрт*
*цудоўнага аркестра.*

*Я слухаю*
*мелодыю дажджу,*
*Які —*
*і дырыжор,*
*і выканаўца.*
*І я сабе*
*ні кроплі не хлушу,*
*Што я —*
*у гэты міг! —*
*музыказнаўца...*

## Маэстра

Кампазітару Алегу Елісеенкаву

*І для душы, і для аркестра*
*Стварае музыку маэстра.*

*Душа натхнёна ажывае,*
*Калі маэстра заспявае.*

*Спяшаюць сонечныя зыкі*
*Сагрэць мелодыю музыкі.*

*І песня зззяе, як нявеста,*
*Што пад вянец пайшла з маэстра.*

## Спявайце песню родную

*Спявайце песню родную —*
*Вясёлую, самотную.*

*Шчаслівую, гаротную —*
*Спявайце песню родную.*

*Спявайце песню родную —*
*Адвечную, нязводную,*

*Бо песня — бессмяротная,*
*Нібы душа народная.*

*Яе не забывайце —*
*Спявайце!..*

Галіна Нічыпаровіч

## Паверыць баюся

*У палоне кахання*
*Зусім прападу.*
*Я спаткала цябе*
*На сваю на бяду,*
*Ці на шчасце*
*Мне лёс*
*Запаветны паслаў:*
*На дарозе жыцця*
*Ты мяне адшукаў.*
*І сцяжынкі,*
*Што поруч,*
*Сышліся ў адну,*
*Нібы вэлюм,*
*З рамонкаў*
*Букет я гарну.*
*Тапаліных сняжынак*
*Віхурыцца баль.*
*Не вярнуць*
*Маладосць нам*
*З табою, на жаль.*
*На дарозе кахання*
*Губляю сляды,*
*Толькі гэта не здрада,*
*Не крок да бяды.*

* * *

*У мітусні гадоў,*
*Віхуры дзён*
*Тут ёсць выток,*
*Тут прыстань чалавеку.*
*Душа і вечнасць*
*Пакідаюць плён*
*На мудрае*
*Усведамленне веку.*

## Настальгія

*Рупліва шчыруе чужы гаспадар*
*Ля веснічак роднае хаты.*
*Журба мне глядзела з дакорам у твар*
*Вачыма матулі і таты.*

*Тут кожны куточак*
*струменіць цяпло,*
*Што хваляй ахутвае сэрца.*
*Як добра калісьці… калісьці было.*
*Было… Даўніна адгукнецца.*

*Даверлівы гук успрымаю на слых,*
*Шапоча лістотаю памяць.*
*Дзяцінства праб'ецца*
*кароценькі ўздых,*
*Не сцерці гадоў сваіх замець.*
*Парою з вачэй я слязінкі змахну,*
*Іх прысмак палынава-горкі.*
*Ніколі не сцішыцца сум па жытлу,*
*Дзе першыя зроблены крокі.*

* * *

*Не аднойчы,*
*Зусім не аднойчы*
*Марай ветлай*
*Глядзеўся ў вочы.*
*Так і сёння*
*Кружыў, заляцаўся*
*Новы дзень,*
*Ён са мной прывітаўся.*
*Сыпануў*
*Залацінкі-іскрынкі*
*Росам буйным,*
*Крануў аблачынкі,*
*Памярэжыў*
*Праменьчыкам першым*
*Ды радочкамі*
*Лёг у вершы.*


Уладзімір Цішуроў

## Зварот да Маўчаны

*Дзяўчынай цябе прыгадаю,*
*бы кнігу ўспамінаў гартаю...*
*Маё табой захапленне*
*Было як у храме маленне!*
*І дух захаплення выстыў,*
*Я, гнаны памылкамі, — выстаяў!*
*Мне хацелася быць з табой шчырым,*
*А ты смутку сыпнула жвірам.*
*Маладушшу няма апраўдання —*
*Не ўстаяў на гары кахання.*
*Памяць ты да грудзей прыгарні*
*І мяне за грахі не кляні.*
*Тая памяць абудзіць найперш*
*Мой упарты і дзёрзкі верш.*

## Дуб

*Не зухаваты,*
*А сукаваты,*
*Не гнецца пад ветрам дуб,*
*Тым ён, нягнуткі, і люб.*
*Якія ў дуба любошчы*
*На яго акругленай плошчы,*
*На яго жалудовай палянцы,*
*Дзе вятры кідаюцца ў танцы?*
*Дзе баяцца абдымкаў дуба*
*Маргарыта, і Зося, і Люба...*
*Бо ў яго — абдымкі дубовыя,*
*Да таго ж пацалункі суровыя...*
*Як пасее дуб жалудочкі,*
*То вакол узрастуць дубочкі.*
*І нягнуткі дубовы гай*
*Упрыгожыць забыты край!*
*Увасоблена ў дубе сіла:*
*Сярод дрэваў — пачэсны асілак!*
*Сімвал моцы і веры краю,*
*Цябе, дуб,*
*І твой дух*
*Услаўляю*
*І, як брата, цябе*
*Абдымаю!*

## Недасяжная...

*Ты ў жыцці маім — недасяжная,*
*Тчэцца доля здаўна сярмяжная.*
*А каханне ці вытчэ долю,*
*Дзе ружовыя кветкі ў полі?..*
*А лёс локці да болю кусае,*
*Сэрца пустку штодня хапае,*
*Задаўнелі на локцях раны,*
*Мне хаваць іх трэба старанна.*
*Муж і сын, і кватэра прыбраная...*
*Мройна ўспыхне дарога санная.*
*А ці хопіць смеласці ў ног,*
*Каб ступіць мне за твой парог?*
*Ты сто год, нават больш, — жаданая,*
*Ты сто год, нават больш, — каханая!*

*Весялосці забытай галінка,*
*Наракаю цябе — Весялінка!*


*Фота Кастуся Дробава*

# Шагал ужо на плошчы!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва

**Такога яшчэ не было: па-за сценамі музеяў і галерэй — на вольным паветры, пад адкрытым небам, у які заўгодна час дня і ночы, для ўсіх і абсалютна бясплатна — дэманструюцца творы Марка Шагала. Адкрыццё гэтай незвычайнай выстаўкі, зладкаванай у межах праекта "Мастак і Горад", прысвечанага 125-годдзю з дня нараджэння нашага славутага земляка, прайшло ўчора ўвечары на сталічнай плошчы імя Якуба Коласа. Размова пра мэты праекта, яго змест і асаблівасці падрыхтоўкі адбылася падчас прэс-канферэнцыі, праведзенай напярэдадні ўрачыстай падзеі.**

## Нарадзіўся. І — што?

Мы гаворым "Шагал" — і маем на ўвазе Віцебск, ці не так? Але арганізатары праекта "Мастак і Горад" вырашылі парушыць гэты ўстойлівы стэрэатып і звязаць сусветна вядомае імя з артпрасторай галоўнага горада краіны і, прадставіўшы ўзоры фенаменальнай шагалаўскай творчасці ў цэнтры сталіцы, зрабіць унікальнае мастацка-асветніцкае свята для ўсёй Беларусі дый для шматлікіх іншаземных гасцей.

Часта даводзіца чуць: "Шагал нарадзіўся ў Беларусі! Суцін нарадзіўся ў Беларусі!" А што з гэтага вынікае? Сам факт нараджэння знакамітага творцы недастатковы для культурнага іміджу краіны. Яго землякі павінны ведаць і шанаваць галоўнае: самі творы. Трэба імкнуцца набываць карціны і папулярызаваць іх на радзіме мастака. Разважаючы на гэту тэму, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэль Рэнеры шчыра вітаў новы праект, знакавы не толькі для беларусаў: "Шагал — грамадзянін Францыі і сімвал таго, што наша краіна заўжды імкнулася рабіць, падтрымліваючы мастакоў усяго свету, якія з-за розных прычын не мелі магчымасці развіваць сваю творчасць на радзіме, на сваёй зямлі. Прыемна зазначыць, што некалькі пакаленняў маёй сям'і нарадзілася ў мястэчку Серэ на поўдні Францыі, з якім звязаны плённы перыяд творчасці Шагала 1930-х гадоў. І я са шчырай асабістай зацікаўленасцю гатовы паспрыяць наладжванню стасункаў тамтэйшага музея з Беларуссю".

Дырэктар па карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці фонду "Ідэя" Віктар Радзькоў паведаміў, што задума праекта ўзнікла ў гутарцы некалькіх чалавек, а да яе ўвасаблення прычыніліся сотні спецыялістаў: "Мы робім гэта дзеля таго, каб нашы суайчыннікі, бліжэй пазнаёміўшыся з творчасцю Шагала, маглі ўрэшце сказаць, што ён не "проста нарадзіўся ў Беларусі". Хто ён: беларус, яўрэй, грамадзянін Францыі, — не важна. Ён — грамадзянін свету, у яго біяграфіі было некалькі краін, шмат гарадоў. Але менавіта Віцебск і Лёзна сталі галоўнымі ў яго жыцці, пра што сведчыць сама творчасць. Вось чаму Марк Шагал — нацыянальны набытак Беларусі". Гэтую выснову падтрымаў намеснік старшыні праўлення ААТ "Банк БелВЭБ" Алег Прохарчык, дадаўшы, што таленавіты ўраджэнец Віцебшчыны мог бы, застаўшыся ў свой час у ЗША, быць славутым амерыканцам, ды ўсё ж галоўнае — не фармальнае грамадзянства: "Шагал сам пісаў і гаварыў адкрыта пра тое, што натхнёны ён быў беларускай зямлёй". Як падкрэсліў прамоўца, стваральнікі праекта "Мастак і Горад" прынцыпова не імкнуліся надаваць яму нейкі элітарны сэнс, наадварот — скіроўваліся на самую шырокую, нават выпадковую публіку, каб кожны, ідучы паўз плошчу, мог заўважыць незвычайны аб'ект, паглядзець выстаўку і, магчыма, упершыню задумацца пра творчую асобу М. Шагала, які шчыра прызнаўся: "Я — гэта мой Віцебск" і для якога крыніцай натхнення сапраўды была Беларусь.



*Партрэт маладога Марка Шагала, намаляваны яго знакамітым віцебскім настаўнікам Юдалем Пэнам, захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, а рэпрадукцыя гэтага твора арганічна дапаўняе экспазіцыю, разгорнутую на плошчы.*

## Свежасць віцебскіх ландышаў

Летась падчас міжнароднага фестывалю графічнага дызайну ў Мінску ўпершыню прайшла пленэрная выстаўка плаката. Яна дэманстравалася цягам месяца на плошчы Якуба Коласа, паблізу Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, і яго дырэктар Наталля Шаранговіч ужо не сумняваецца: "Калі мастацтва выходзіць за межы музея, мяняецца свядомасць людзей. Уражаныя ўбачаным, яны пачынаюць неабыякава ставіцца да мастацкіх падзей, цікавіцца тым, што адбываецца ў выставачных залах. А новы праект узяў на сябе не толькі пазнавальную, але і адукацыйную функцыю. Прынамсі, кожная з 19 рэпрадукцый, зробленых на спецыяльных стэндах-ноcьбітах, суправаджаецца тэкстам на беларускай, рускай, англійскай і французскай мовах — пра гісторыю стварэння работы і адметнасць выявы".

Размяшчэнне выстаўкі ў вулічнай прасторы дыктавала свае ўмовы. На думку мастацтвазнаўцы Тамары Карандашавай, эксперта Камітэта Марка Шагала, галоўная праблема была ў тым, каб паказаць карціны ў павільчаным маштабе, не сказіўшы ў рэпрадукцыях дух арыгіналаў, захаваўшы адпаведнасць колераў і адмысловы рух пэндзля. Выбіраліся ўзоры створанага Шагалам да ад'езду ў Францыю (1922), частка якіх знаходзіцца ў музеях Расіі. Гэта і нетыповае для яго манументальнае палатно "Шпацыр" (1917 — 1918), і вядомыя сюжэты "Над горадам" (1914 — 1918), "У цырульні" (1914), "Дом у Лёзне" (1914), і рамантычны нацюрморт "Ландышы" (1916), у якім — водар таго кранальнага букета, што прынёс мастак сваёй каханай Бэле ў дзень нараджэння іх адзінай дачкі... Ёсць на выстаўцы і рэпрадукцыі каляровых літаграфій 1950 — 1980-х гадоў са збору Музея Марка Шагала ў Віцебску.




*Дырэктар па карпаратыўнай сацыяльнай адказнасці фонду "Ідэя" Віктар Радзькоў і Пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Мішэль Рэнеры.*

Што яшчэ ладзіцца ў межах праекта? Пленэр юных мастакоў і адкрыццё першай у Мінску дзіцячай артгалерэі — мабільнай, якая будзе пераўтворана ў стацыянарную. Паказ на розных пляцоўках, у тым ліку ў дзіцячых дамах, спектакля "Анёл крочыў над стрэхамі" паводле кнігі М. Шагала "Маё жыццё" — відовішча, якое ў гульнявой форме распавядае пра творчы лёс мастака... Сама ж выстаўка прабудзе на плошчы ўсё лета і нават затрымаецца да традыцыйнага верасвага свята горада.

**Даведка**

*Праект святкавання ў Мінску юбілею М. Шагала спраўджаны міжнародным сацыяльна-эканамічным фондам "Ідэя" пры афіцыйнай падтрымцы Пасольства Францыі ў Беларусі. Генеральным партнёрам з'яўляецца ААТ "Банк БелВЭБ" (новая назва Белзнешэканамбанка), суарганізатарамі — Мінскі гарвыканкам і сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва. Зауважны і ўдзел расійскіх спецыялістаў з санкт-пецярбургскага Дзяржаўнага рускага музея ды маскоўскай "Траццякоўкі": калегам з Беларусі яны бясплатна прадаставілі слайды, паводле якіх рабіліся рэпрадукцыі шагалаўскіх твораў для выстаўкі "Мастак і Горад".*

# Два візіты ў адзін тэатр

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

Гродзенскі абласны драматычны тэатр едзе на гастролі ў Мінск. Яны адбудуцца з 12 па 17 чэрвеня на сцэне НАДТ імя М.Горкага. Тэатр з 65-гадовай гісторыяй далучае гледачоў Гродзеншчыны да лепшых традыцый нацыянальнай і сусветнай культуры праз разнажанравы рэпертуар, у якім сёння 30 спектакляў, у тым ліку 9 — для дзяцей. Візіт у сталіцу будзе кароткі, таму на гастрольнай афішы толькі тры назвы: "Пра нешчаслівага селяніна, яго жонку Маланку, жыда Давіда і Чорта, які страціў сэнс існавання" (кантамінацыя камедый К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча, зробленая У. Рудавым; рэжысёр Г. Мушперт), амерыканская драма "Палёт над гняздом зязюлі", што атрымала сусветнае прызнанне дзякуючы вядомаму фільму М. Формана паводле рамана К. Кізі ды тэатральнай версіі Д.Васэрмана (на гродзенскай сцэне спектакль пастаўлены Г. Мушпертам), і папулярная англійская камедыя "№ 13" Р. Куні (рэжысёр С. Курыленка).

А за некалькі дзён да прыезду гасцей з горада над Нёманам у тэатры імя М. Горкага чакаецца яшчэ адзін візіт. Свой родны гарадок Гюлен, у які ператворыцца сцэнічная прастора, наведае шыкоўная немаладая дама — мультымільярдэрка Клара Цаханасьян. Чым скончыцца яе вяртанне на радзіму, для знаўцаў драматургіі Ф. Дзюрэнмата не сакрэт. Але ім карціць паназіраць за падзеямі вядомай п'есы ў рэжысёрскім прачытанні Б.Луцэнкі, пераасэнсаваць парадоксы сітуацыі, што спарадзіў "Загадкавы візіт" — пад гэтай назвай убачыць свет 9 і 10 чэрвеня прэм'ера горкаўцаў. У ролі Клары — Б. Масумян.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Віктара Кавалёва і аўтара

Юбілейны дзень нараджэння адзначае 8 чэрвеня Лідзія Манакова. Легендарны педагог Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, настаўнік многіх вядомых дзеячаў сцэны (А. Жугжда, В. Маслюк, М. Пінігін, З. Белахвосцік ды інш.), яна ў свой час атрымала выдатную школу (Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут скончыла ў К. Саннікава і В. Рэдліх). А багаты прафесійны досвед Л. Манакова набыла праз тэатральную практыку. Працавала рэжысёрам Гомельскага абласнога драмтэатра (1968 — 1973), была там галоўным рэжысёрам (1987 — 1990). Ставіла таксама спектаклі ў Тэатры-студыі кінаакцёра і ў купалаўцаў, на сцэнах Балгарыі ды Чэхіі... Студэнты любяць яе і цэняць за смеласць творчага мыслення, веданне розных рэжысёрскіх сістэм, дух эксперыментатара.



Сёння артысты Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра разам з расійскімі ды амерыканскімі калегамі пакажуць "Начное брадвейскае шоу ў музеі пад адкрытым небам". Канцэрт, які пачнецца а 22-й гадзіне ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, узновіць свет мюзіклаў, напоўнены жывым гучаннем аркестра і вакалу, агністымі танцамі. Рэжысёр Н. Грыненка, харэографы П. Эмерсан (ЗША) і Д. Якубовіч, дырыжоры М. Макарэвіч і М. Траццякова злучылі ў гэтай імпрэзе (яна ладзіцца пры садзейнічанні Пасольства ЗША ў Беларусі) славутыя творы. Сярод іх "Прывід оперы", "Коткі", "Чыкага" і "Вестсайдская гісторыя", прэм'еру якой нядаўна ажыццявіў БДАМТ.

Перад цырымоніяй падвядзення вынікаў конкурсу "Убельская ластаўка" ў г. Чэрвені фае раённага Цэнтра культуры і адпачынку на нейкі час ператварылася ў артпляцоўку. Вядомы інструментальныя калектывы — народная капэла "Ігуменскія крыніцы" Чэрвеньскай ДШМ — граў даўнюю беларускую музыку: творы А. Абрамовіча, М. Агінскага, Н. Орды... Побач размясцілася выстаўка лепшых работ удзельнікаў мінскіх абласных дзіцячых пленэраў — "Мясціны родныя мае". Яна традыцыйна праводзіцца ў наваколлі Чэрвеня, на маляўнічай гістарычнай ігуменскай зямлі, штолета збіраючы юных мастакоў з Лагойска, Стоўбцаў, Маладзечна, Смалявіч, іншых мясцін сталічнай вобласці.



*Пленэрны малюнак Паліны Лялінай з Барысава.*

**Прапануем увазе чытача працяг тэатральных нататак Фрыдрыха Модаля, першыя тры раздзелы якіх змешчаныя ў нумарах за 27 красавіка, 11 і 25 мая.**

**Аддзел мастацтваў «ЛіМа»**

# Сучасная казка

## «Красоўкі, красоўкі, красоўкі кабарэ». Дыялог

**Фрыдрых МОДАЛЬ**

У мяне зазваніў тэлефон.

— Хто гаворыць?

Прагучаў голас Ірыны Кірылаўны:

— Добрай раніцы!

Мая прыемная суразмоўца ўжо больш як дзесяць гадоў зычыць мне ўсялякага дабра. І сярод шматлікіх тэм, якія цікавыя нам, дзве ўлюбёныя: дзеці і тэатр.

— Вы ўяўляеце, маё дзіця запрасіла мяне на грамадскі прагляд новай казкі ў нейкі незнаёмы клуб…

Ірына Кірылаўна, спецыяльнасць якой "фізіка цвёрдага цела", колькі сябе памятае, гледачом была заўзятым, бо яе матуля і тата, афіцэр вельмі сур'ёзных войскаў, пры кожнай магчымасці разам з малой хадзілі ў тэатры Масквы, Ленінграда, Тбілісі… Бацькі Ірыны пакінулі дачцэ ў спадчыну добры густ і прыхільнасць да выдатнага сцэнічнага мастацтва, якія не згаслі ад пераездаў і гарнізоннага жыцця. Тая, як і яе маці, выйшла замуж за афіцэра — з усімі адпаведнымі наступствамі. А "глядацкую спадчыну" ў сваю чаргу перадала дачцы Аняліце, якую ў тры гадкі павяла ў Беларускі тэатр музкамедыі глядзець і слухаць "Сільву". Дзяўчо пасля наведвання аперэты вельмі выразна і з танцамі выканала арыю… "Красоўкі, красоўкі, красоўкі кабарэ" ў дзіцячым садку. Сёння ўжо дарослы чалавек, журналіст, яна гэтага, магчыма, не памятае, але і на тэлебачанні, і ў газеце імкнецца займацца мастацтвам, найперш тэатрам. Вось такая генеральская спадчына дайшла да ўнучкі. І, між іншым, мастацкія прыхільнасці мамы і дачкі шмат у чым супадаюць.

— Вы ўсведамляеце, Ірына Кірылаўна, што ўсё тое, што адбываецца з вашай Ганнай сёння, — наступства таксама і прыхільнасцей вашых бацькоў?

— Магчыма, толькі цяпер, калі я спрабую аналізаваць мінулыя гады, разумею, што гэта сапраўды так.

— Вы свядома далучалі дачку да тэатра?

— Магчыма, шмат што рабілася стыхійна. Маці перадае дзіцяці тое, што любіць, падсвядома. Я, зразумела, выхоўвала яе. І цяпер імкнуся. Але… Самі ведаеце, што моладзь не надта прыслухоўваецца да парад старэйшых.

— Добра ведаю, бо сам такі, не прымаю маралізатарства, націску… Большасць дзяцей і дарослых таксама ніяк не прымаюць ні выхаваўчай рыторыкі, ні прымусу звонку… Калі тыдзень таму я запытаўся ў маладога мастацтвазнаўцы пра мэты мастацтва, пачуў у адказ выснову, што мастацтва мае галоўнай мэтай выхаванне. Нават знайшоў крыніцу такой высновы.

Вось што казаў наконт гэтага мэтр: "Як усялякае мастацтва, тэатр павінен паглыбляць яго (гледача) свядомасць, рабіць больш тонкімі яго пачуцці, узнімаць яго культуру. Глядач, ідучы са спектакля, павінен глядзець на жыццё і сучаснасць глыбей, чым калі прыйшоў у тэатр" (К. Станіслаўскі).

Мне самому блізкая думка Барыса Пастарнака: "Мэта творчасці — самааддача". Пры ўсёй павазе да заснавальніка МХАТа, не кожны дзеяч тэатра сёння пагодзіцца з тым, што ён "павінен паглыбляць яго (гледача) свядомасць", і не кожны глядач змусіць сябе "глядзець на жыццё і сучаснасць глыбей, чым калі прыйшоў у тэатр". І ў тэатра, і ў гледача сёння дастаткова волі, каб рабіць тое, што яны самі хочуць.

— Вы любіце, каб вас выхоўвалі? — азваўся ўва мне Даўганосік.

Пачуўшы ад сваёй суразмоўцы шчыры адмоўны адказ, дадаў:

— Ніхто не хоча выхаваўчай апрацоўкі. Сам ці сама!!! Але ж выхоўваць малых неяк трэба… Мастацтва, безумоўна, адбіваецца на эмацыянальнасці і светапоглядзе асобы, але толькі ўскосна. Вы атрымалі ў час прагляду "Сільвы" порцыю радасці, весялосці — і зрабіліся дабрэйшай, больш мяккай… Спектакль даў спажыву вашаму розуму — і вы ў чымсьці адкарэкціравалі свой светапогляд… Спектакль прапануе гледачу стаць суразмоўцам ці дае магчымасць разам з героямі перажыць альбо зведаць нейкія іншыя пачуцці… Заклікае да сумеснага разумова-эмацыянальнага дзеяння. Але ні таго, ні другога не адбудзецца, калі вы самі афарбавалі сваё наваколле ў фіялетавы колер і на іншае не здольныя.

— Вы маеце рацыю. Мэтанакіраванай адукацыі з майго боку не было. І да выхаваўчых прамоў дачка не прыслухоўвалася. Дзяўчыну ўжо "не пастроіш". Яна склалася як асоба са сваім светам каштоўнасцей.

— Прабачце, але яшчэ запытаю: вам зразумела, чаму вы ніколі не адмаўляліся ад магчымасці пайсці ў тэатр? Было шмат грошай і вольнага часу? Вас цікавіў сюжэт? Ці прымалі да ўвагі інфармацыю сябровак? Што вабіла?

— Не магу сказаць… не думала. Проста мне гэта было неабходна. І ўсё.

— Як курцу — цыгарэтка? Вы ішлі па прыемныя адчуванні, па задавальненне?

—Як сказаць… Па адчуванні — розныя.

— Псіхолагі сцвярджаюць, што тэатр у момант кантакту з ім транслюе нешта важнае проста на падсвядомасць. Ён сейбіт разумнага, добрага, вечнага… А ваша дачка нядаўна даслала мне па электроннай пошце адказ на пытанне: навошта, дзеля чаго яна ходзіць у тэатр.

"Гэта мая праца; спосаб быць эрудзіраванай і пашыраць свой далягляд; слухаць добрую музыку; магчымасць паглядзець на сябе збоку; перасцерагчы сябе ад памылак; магчымасць зведаць эмоцыі, якіх у рэальнасці я пакуль яшчэ не мела; магчымасць ганарыцца таленавітымі людзьмі нашай краіны; спосаб расчароўвацца ў ноздрах, якіх пускаюць часам на сцэну. Самае галоўнае — магчымасць абстрагавацца ад навакольнага свету, адключыўшы мабільны тэлефон, і быць ШЧАСЛІВАЙ! Няхай на гадзіну, дзве, тры!"

Спачатку я падумаў, што ўсё гэтае рацыяналістычнае шматслоўе — вынік няўпэўненасці. Потым ацаніў шчырасць і магчымасць убачыць іншага чалавека. Права выхавання мастацтвам яна пакінула за сабой, зрабіўшы яго самавыхаваннем. Дарэчы, "успрыманне мастацтва вымагае творчасці, бо і для ўспрымання мастацтва недастаткова проста шчыра перажыць тое пачуццё, якое валодала аўтарам, недастаткова разабрацца і ў структуры самога твора — неабходна яшчэ творча пераадолець сваё ўласнае пачуццё, знайсці яго катарсіс, і толькі тады дзеянне мастацтва адаб'ецца спаўна", — казаў пра тое класік псіхалогіі.

Глядач, не ведаючы таго, перажывае асалоду ад сцэнічнага дзеяння, але і атрымае ў падарунак шмат асабістых эмоцый і думак… А вы, Ірына Кірылаўна, маглі бы сёння назваць мэту вашых вандровак па тэатрах?

— Магу толькі працытаваць дачку: "Самае галоўнае — магчымасць абстрагавацца ад навакольнага свету… і быць ШЧАСЛІВАЙ!"

—У такім разе вам і ўсім гледачам — паболей шчасця!



*Кампакт-дыск ансамбля.*

# Вачам радасць і сэрцу асалода

**Каб "Харошкі" ды не танчылі? Быць такога не можа! Аднак у Беларускім дзяржаўным заслужаным харэаграфічным ансамблі, творчасць якога выяўляе сінкрэтычную сутнасць народнага мастацтва, як нідзе ведаюць: душа танца раскрываецца праз музыку. І ў нядаўнім канцэрце гэтага ўнікальнага тэатра танца Валянціны Гаявой менавіта музыка выйшла на першы план.**


*Фрагмент канцэртнай праграмы "Музыка для душы".*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Кастуся Дробава**

Сваю сольную праграму прадставіў публіцы аркестр "Харошак", выступіўшы ў новай сталічнай канцэртнай зале "Верхні горад". Канцэрт пад назваю "Музыка для душы" ладзіўся як прэзентацыя аднайменнага аўдыёдыска знакамітага танцавальнага калектыву. Інструментальна-песеннае мастацтва ансамбля прымалася на "ўра", і яскравае выкананне ў г. зв. рэжыме рэальнага часу, безумоўна, стымулявала цікавасць гледачоў да дыска, набыць які можна было ў фае.

Цяпер, запускаючы ў плэеры кружэлку "Харошак", міжволі параўноўваеш чыста слыхавыя ўражанні з аўдыёвізуальным эфектам ад жывога канцэрта-відовішча. Арганізатары прэзентацыі захавалі, што называецца, чысціню жанру, і ў зале ўсё было амаль як на самім дыску. Амаль, ды не зусім.

Больш як паўтара дзясятка вакальных нумароў ды інструментальных кампазіцый выконвалася без антракту, але фармат нон-стоп "разбурала" гарачая рэакцыя гледачоў: яны ладзілі артыстам працяглыя авацыі, не стрымлівалі воклічаў "брава!". А наогул, ці варта параўноўваць жывое выступленне майстроў, падтрыманае чуйным захопленым подыхам залы, з няхай нават супер-якаснымі "камп'ютарнымі кансервамі" іх творчасці! Дыск знойдзе належнае месца ў фанатэках прыхільнікаў "Харошак" і парадуе аматараў слухаць сваё. Але ж канцэрт "Музыка для душы" пацешыў яшчэ і вока: мастацтвам Аляксея Гаявога ды Юрыя Піскуна, якія стварылі адмысловыя сцэнічныя касцюмы; артыстызмам таленавітых выканаўцаў; арганічнай пластыкай дынамічных мізансцэн, спакроўленых з музычнай інтанацыяй, прасякнутых культурай жэсту, руху, рытмам і духам танца. Ва ўсім гэтым — праява густу і рэжысёрскага прафесіяналізму мастацкага кіраўніка Валянціны Гаявой, сумоўя творчых індывідуальнасцей музычных кіраўнікоў Уладзіміра Гінько ды Марыны Марозавай і рэпетытара па вакале Галіны Рамейкі. Дый, вядома ж, — імправізатарскіх здольнасцей "харызматычных" удзельнікаў імпрэзы, здатных заваражыць публіку, трымаючы яе ўвагу да фінальнай ноты.

Песні жартоўныя і лірычныя; драматычныя балады і сатканыя з народных алегорый акапэльныя маналогі; сакавітыя і дасціпныя партытуры, насычаныя галасамі аўтэнтычных беларускіх інструментаў (дуда, жалейка, сапілка, акарына, кмен, дыятанічныя цымбалы, група ўдарна-шумавых); сучасныя аўтарскія песні ды аранжыроўкі фальклорных узораў, насычаныя ўскладнёнымі гарманічнымі кантрастамі, расквечаныя сентыментальнымі бліскаўкамі хрaматызмаў у духу эстэтыкі гарадскога рамансa... Вось такую розную музыку прапанавалі "Харошкі" для душы. І не адна душа была ўсцешана ці ўзрушана вясёлай "Люлечкай"-самаграйкай; жаласліва-пранікнёнай "Перапёлкай", дзе кожны куплет гучыць, нібы прыгожая гарманічная варыяцыя; "мускулістай" мужчынскай энергетыкай "Дуды"-весялухі; пранізліва журлівай "Бярозай"; імпрэсіяністычна маляўнічай паліфаніяй песні "Вецярок вее" з пазнавальным аўтарскім почыркам М. Марозавай; "Беларускімі найгрышамі", перастворанымі У. Гінько ў каларытную канцэртную кампазіцыю; фантастычным падарожжам "Саўкі ды Грышкі" па музычных культурах замежжа...

Каб "Харошкі" ды не танчылі? У гэтай праграме раканаўча раскрылася і душа танца! Калі гучалі такія, напрыклад, песні, як "Ой, пад мостам", "Арэшчынка", "Два яблычкі", "Ішлі салдацікі дамоў" (песня "Із далёкіх із краёў" з фальклорнага збору Г. Цітовіча) дый іншыя нумары, ва ўяўленні паўставалі ці вясёлыя народныя скокі, ці карагод, ці кадрыля, ці марш... А ў фінале, калі пачуліся знаёмыя гукі "Барыні", перад публікай з'явіўся яе даўні ўлюбёнец — Фёдар Балабайка. Легендарны саліст нават спусціўся са сцэны і зухавата прайшоўся паўз першы рад залы. Якія ж "Харошкі" без танца! Зразумела, гэтага, як і некаторых іншых эпізодаў самога канцэрта, на дыску няма. Затое кружэлка дае магчымасць зноў і зноў услухацца ў непаўторныя галасы салістаў-спевакоў Віктара Кедалы, Наталлі Брацлоўскай, Юліі Гібкоўскай, Вольгі Неўмяржыцкай, працягнуць хвіліны захаплення майстэрствам баяністаў Уладзіміра Гінько, Андрэя Перадзерыя, мультыінструменталістаў Андрэя Дзяргая, Станіслава Наважылава, Дзмітрыя Кукса, Антона Зараўнядная, цымбалісткі Валянціны Марчынскай, скрыпачкі Таццяны Машанскай...

Калі ў мінскім касцёле Святой Тройцы (Святога Роха) яшчэ размяшчалася Зала камернай музыкі Беларускай дзяржаўнай філармоніі, аркестравая група "Харошак" ладзіла там канцэрт-прэзентацыю сваёй праграмы "Па старонках «Полацкага сшытка»". Тую падзею яе відавочцы ўспамінаюць і па сёння. Цікава, што прэзентацыя дыска "Музыка для душы" прайшла таксама ў сценах старадаўняга мінскага храма — аднаўлёнай царквы Святога Духа. І прыгадваецца гэта незвычайная сустрэча з творчасцю папулярнага ансамбля будзе доўга, тым больш калі на ўспамін застаўся дыск з музыкай для душы.

**Першая кніга — заўсёды падзея для аўтара. Кніга, прысвечаная вядомай, таленавітай і без перабольшвання пасіянарнай асобе, мае ўсе шанцы стаць падзеяй і для чытача. Тым больш калі яна носіць такую правакацыйную назву, як “«Донжуанскі спіс» Караткевіча”. Аднак хочацца апярэдзіць магчымыя абвінавачванні на адрас дэбютнай кнігі Дзяніса Марціновіча (выдавецтва “Чатыры чвэрці”, серыя “Мінскія маладыя галасы”). У выданні, насуперак пэўнай эпатажнасці і камерцыйнасці назвы, — ані намёку на нейкія танныя сенсацыі. Наадварот, гэта ўдумлівае, карпатлівае і займальнае даследаванне.**

# Тактоўная правакацыя, або Ціхае архіўнае паляванне

Алена КАРП

**— У артыкуле “Як стварыць літаратурную біяграфію?” ты гаворыш пра значнасць і неабходнасць гэтага жанру. І твая ўласная кніга выглядае досыць сур’ёзнай спробай, зачынам да магчымай поўнай біяграфіі У. Караткевіча. Але чаму быў абраны менавіта такі аспект, менавіта тэма кахання?**

— Увогуле, гэтай тэмай зацікавіўся яшчэ даўно, калі яшчэ быў ліцэістам. Так атрымалася, што я прачытаў запар два творы Караткевіча: спярша аповесць “У снягах драмае вясна”, а потым раман “Нельга забыць” (“Леаніды не вернуцца да зямлі”). Заўважыў, што ў абодвух творах дзейнічаюць гераіні з аднолькавымі імёнамі (Алёнка) і, самае цікавае, супадае шэраг дэталяў і сітуацый. Паколькі чалавек пісаў два разы пра адно і тое ж, узнікла здагадка: а раптам гэтыя падзеі адбываліся з Караткевічам у рэальным жыцці? Акрамя таго, мне наогул цікавыя прататыпы пэўных літаратурных герояў. Прачытаўшы нейкі твор, заўсёды імкнуся даведацца, што ж там было насамрэч. Напрыклад, калі няшчасная гераіня памерла, а рэальны чалавек застаўся жывы (як у выпадку з прататыпам Ганны Карэнінай), гэта неяк суцяшае, робіцца не так крыўдна за героя. У выніку захацелася даведацца, якія асобы стаялі за “Алёнкамі” Караткевіча, таму пачаў разблытваць гэтую гісторыю. Вынікам пошукаў стаў мой першы артыкул “Паляванне на Алёнку”, надрукаваны ў часопісе “Маладосць” у верасні 2004 года.

Патрэба адказаць, ці існавала нейкая рэальная асоба, якая хавалася за імем Алёнка, стала маім першым штуршком да даследавання. Потым гэтая тэма была часова адкладзена. Другі штуршок я атрымаў у 2010 годзе, калі ўпершыню трапіў у Кіеў. Як вядома, Караткевіч вучыўся там ва ўніверсітэце. У выніку ў яго паэзіі, асабліва ў зборніку “Матчына душа”, прысутнічае вельмі шмат вобразаў гэтага горада, згадак пра пэўныя мясціны. Раней я ўспрымаў іх як пэўную абстракцыю. Але, пабачыўшы ўсё на ўласныя вочы, літаральна натхніўся духам Кіева і вырашыў працягнуць сваё даследаванне.

Трэцім штуршком стала інтэрв’ю Ніны Молевай — прататыпа галоўнай гераіні рамана “Нельга забыць”, змешчанае гады два таму ў газеце “Комсомольская правда в Белоруссии”. Асобныя выказванні Молевай выклікалі ў мяне пратэст. Па-першае, некаторыя факты пра Караткевіча, на маю думку, не адпавядалі рэчаіснасці. Па-другое, яна настойвала, што паміж імі былі толькі ўзаемаадносіны “настаўніца — вучань”. Канечне, інтэрв’ю не споведзь, і ніхто не абавязаны казаць праўду. Але ж не трэба і хлусіць! Так да цікавасці дадалася яшчэ і мужчынская салідарнасць (*смяецца*).

У пошуках адказаў на пытанні пра Молеву і “Алёнку” я пайшоў у Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. З архіўных матэрыялаў, у прыватнасці, лістоў Караткевіча да Юрыя Гальперына, пачалі высвятляцца пэўныя абставіны біяграфіі пісьменніка. У выніку ўзнікла жаданне пашырыць межы свайго даследавання. Артыкулы пра Молеву і “Алёнку” былі змешчаны на старонках “ЛіМа”. Спецыяльна для кнігі дапісаў раздзелы пра іншых дзяўчат, якіх кахаў Караткевіч, каб атрымаўся цэласны, завершаны твор.

**— Наколькі важным у такой датклівай і далікатнай тэме быў для цябе этычны аспект? І ці адчуваў ты пэўныя маральныя абмежаванні, пішучы пра жывых удзельнікаў тых падзей, пры тым, што яны самі катэгарычна адмаўляюцца ад свайго месца ў “донжуанскім спісе”? Тут я маю на ўвазе Ніну Молеву.**



— Што датычыцца Молевай, то тут сітуацыя вельмі дзіўная і адначасова цікавая. У мяне складваецца ўражанне, што Ніна Міхайлаўна вядзе нейкую своеасаблівую жаночую гульню: з аднаго боку, я тут, маўляў, ні пры чым, але, з другога боку, даследуйце. Напрыклад, яна дазволіла Анатолю Вераб’ю, літаратуразнаўцу, укладальніку зборніка “Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы”, працаваць з яе фондам у Цэнтральным маскоўскім архіве-музеі асабістых збораў і змясціць у кнізе лісты Караткевіча да яе. Але ў гэтых лістах тэма кахання гучыць адкрытым тэкстам. Больш за тое, сітуацыі, пра якія ў іх распавядаецца, цалкам супадаюць з падзеямі ў рамане “Нельга забыць”, што пацвярджае аўтабіяграфічнасць твора. Калі Н. Молева так рашуча адмаўляла свае асабістыя стасункі з Караткевічам, навошта было даваць дазвол на знаёмства з лістамі?

Што да этычнага аспекту… Упэўнены, што абавязкова знойдуцца пурытане, якія абвінавацяць мяне ва ўмяшанні ў асабістае жыццё аўтара, у спробе пабудаваць сенсацыю, нейкіх асабістых амбіцыях. Але ўся кніга засноўваецца менавіта на дакументальных, архіўных матэрыялах, там няма нейкіх мастацкіх фантазій. Акрамя таго, шэраг матэрыялаў, што былі выкарыстаныя пры даследаванні, ужо надрукаваныя. Перапіска паміж Брылём і Караткевічам выходзіла ў зборніку “Шляхам гадоў”; фрагменты ліставання з Гальперыным друкаваліся ў “Нёмане” яшчэ ў 1990-я гады; успаміны ўкраінскага пісьменніка Мікалая Амельчанкі пра Навэлу і Натэлу, гераінь “донжуанскага спіса”, друкаваліся ў часопісе “Полымя”; у тым жа выданні можна знайсці ўспаміны Валянціны Паповай (Чакалавай). Калі выйдзе збор твораў Караткевіча, туды будзе ўключана ўсё яго ліставанне з Гальперыным. То бок, значная колькасць фактаў не з’яўляецца таямніцай і знаходзіцца ў адкрытым доступе.

У даследаванні вылучаюцца пэўныя гіпотэзы, і гэта абсалютна навуковы падыход. Іншыя навукоўцы могуць іх абвергнуць. Зразумела, існуе нейкая мяжа, але мне здаецца, што ў кнізе няма двухсэнсоўных момантаў, непатрэбных падрабязнасцей. Здаецца, этычную лінію я вытрымаў.

**— Гісторыя Молевай вельмі яркая, запамінальная і падрабязная, тады як пра “Нонку”, Навэлу, Натэлу вядома няшмат. Ці плануеш ты працягваць даследаванне, ці кропка ўжо пастаўленая?**

— Калі шчыра, канечне, кропку ставіць не хочацца. У кнізе атрымалася прасачыць амаль усю біяграфію Караткевіча. Аднак ёсць белая пляма: гэта 1963 — 1967 гады. Пра гэты перыяд ходзяць толькі чуткі, але я не хацеў на іх абапірацца. Напрыклад, з Молевай сітуацыя была дастаткова спрыяльная. Па-першае, жартам кажучы, Ніна Міхайлаўна сама паклапацілася пра даследчыкаў, перадаўшы ў архіў згаданыя лісты. Па-другое, ёй прысвечаны цэлы раман. Дзякуючы гэтаму я ўжо першапачаткова меў пэўны матэрыял. А вось што датычыцца іншых гераінь “Спіса”, пра якіх мала інфармацыі, трэба працягваць пошукі. Вясной гэтага года я ездзіў у Кіеў у спадзяванні знайсці нешта новае. Але высветлілася, што хтосьці памёр, хтосьці мала што памятае. З пошукам асобы, якая хаваецца за ініцыяламі С. М., па вялікім рахунку, усё элементарна: едзеш у Кіеў, атрымліваеш дазвол, глядзіш архіўныя спісы выпускнікоў кіеўскіх ВНУ сярэдзіны 1950-х гадоў, суадносіш іх з ініцыяламі…

Спадзяюся, што на кнігу будзе пэўная рэакцыя, як чытачоў, так і прафесійных даследчыкаў Караткевіча. Хтосьці можа выказаць пэўныя заўвагі, хтосьці, магчыма, назаве новае імя для “Спіса”. Усё ж такі Караткевіч — рамантык, таму разглядаць яго творчасць без уплыву на яе жанчын мы не можам. Спадзяюся, калі-небудзь з’явіцца такая паўнавартасная біяграфія Караткевіча, як, напрыклад, кніга А. Лойкі “Янка Купала” ў серыі “ЖЗЛ”. І маё даследаванне дапаможа разгадаць “белыя плямы” ў біяграфіі пісьменніка.

**— Ва ўжо згаданым артыкуле “Як стварыць літаратурную біяграфію?” ты папярэджваеш пра цяжкасці, з якімі непазбежна звязаная такая праца. А з якімі праблемамі сутыкнуўся ты?**

— Па-першае, гэта абсалютная нераспрацаванасць тэмы. Прыемнае выключэнне — Адам Мальдзіс, які сябраваў з Караткевічам і ў сваёй кнізе “Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча” падрабязна пісаў пра яго жонку. Паколькі гэты аспект вельмі добра распрацаваны, нарыс пра Валянціну Браніславаўну я даваў да пачатку 1970-х гадоў. Але наогул тэма з’яўляецца абсалютнай terra incognita. Між тым, калі адной і той жа праблемай займаецца некалькі чалавек, яны могуць падказаць: у цябе тут памылка, тут ты недакладны. Была, напрыклад, такая сітуацыя: у 2010-м я вярнуўся да свайго артыкула “Паляванне на Алёнку” і высветліў, што некаторыя тэзісы былі спрэчнымі і патрабуюць перагляду. Але за гэты час ніхто з даследчыкаў не звярнуў на іх увагу. Або не пацікавіўся, або проста не заўважыў. Таму трэба, каб праблемай займалася некалькі чалавек, а то атрымліваецца, “сам с собою я веду беседу”, сам з сабою спраўляюся.

Па-другое, пытанні фінансавага кшталту. Што датычыцца чачэнскай паэтэсы Раісы Ахматавай, я напісаў ліст у Чачню з пытаннем, ці застаўся яе архіў. Адказалі, што, на вялікі жаль, ён цалкам знік падчас Першай чачэнскай вайны. Відавочна, што ў бліжэйшы час наведваць Чачню няма патрэбы. Але на будучыню варта мець на ўвазе, што там маглі выходзіць пэўныя даследаванні, якія б дапамаглі зразумець адносіны Р. Ахматавай з Караткевічам. А вось камандзіроўкі ў Кіеў і ў Маскву проста жыццёва неабходныя. Дзякуй Богу, сёння ўсе прызналі, што Караткевіч — класік беларускай літаратуры. Таму праца па стварэнні яго біяграфіі павінна быць часткай дзяржаўнай праграмы, а не справай фанатаў-адзіночак. Пакуль такое даследаванне застаецца прыватнай справай, то яна і развіваецца ў меру тых магчымасцей, якія мае адзін чалавек.

**— Кідкая назва, загалоўкі артыкулаў, стыль, абраная тэма, непасрэдна змест кнігі сведчаць пра тое, што ты скіраваны менавіта на папулярызацыю беларускай літаратуры. Ці мог бы ты акрэсліць і патлумачыць сваю пазіцыю?**

— Зразумела, ідэальнай сітуацыі не бывае, і чым больш кніг, тым лепш. Але, на маю думку, навуковыя выданні пра беларускую літаратуру апошнім часам з’яўляюцца ў дастатковай колькасці. А вось навукова-папулярных кніг катастрафічна не хапае. Таму мая пазіцыя абсалютна свядомая. Па-першае, неабходна неяк закрыць амбразуру ў навукова-папулярным кірунку. А па-другое, скажам шчыра: навука — з’ява самадастатковая. Таму яна будзе існаваць незалежна ад шэрагу знешніх фактараў. А вось цікавасць да беларушчыны, роднай мовы і культуры можа зменшацца праз пэўныя неспрыяльныя абставіны. Менавіта таму трэба займацца папулярызацыяй — прыцягненнем да нацыянальнай ідэі новых людзей.

Заўсёды выходжу з таго, што мае артыкулы пра беларускую літаратуру павінны быць напісаныя так, каб іх мог прачытаць чалавек гуманітарнага складу. Ён не абавязаны мець філалагічную адукацыю, нейкія навуковыя ступені, ён проста мусіць быць не “тэхнаром”, а гуманітарыем. Нейкія звышпатрабаванні проста звужаюць аўдыторыю. Наогул, Караткевіч сапраўды аб’ядноўвае нацыю, бо ім цікавяцца незалежна ад мовы і інтарэсаў. Таму спадзяюся, што кніга будзе запатрабаваная шырокай аўдыторыяй.

*З пошты «ЛіМа»*

## Жыццё славутасцей

60 гадоў таму, 30 мая 1952 года, з Масквы ў сталіцу Беларусі прыязджае знакаміты артыст, спявак Аляксандр Вярцінскі, а 31-га ён піша з Мінска жонцы ліст пра тое, што, як ён даведаўся з мясцовай газеты, у горадзе ў Вялікім тэатры оперы і балета будзе выступаць у “Лебядзіным возеры” Галіна Уланава.

“Я ніколі яе не бачыў і вырашыў пераасіліць сваю ляноту і пайсці! І… я быў агаломшаны! Гэта нейкі цуд! Ні ў Расіі, ні за межамі — ніколі я не бачыў такой танцоўшчыцы. Параўнаць яе няма з кім”, — так пісаў А. Вярцінскі. Спявак заўважыў, што Галіна Уланава яго пазнала: “Я сядзеў у першым радзе — яна мне кланялася асобна, ведала, што я ў тэатры”. А далей распавёў, як ён наведаў славутую балерыну ў грымёрнай, прызнаўшыся: “Я нават не помню, пра што яна гаварыла”. Такое было захапленне адной славутасці другой.

І вось яшчэ некалькі радкоў з таго ліста: “Яна танцавала, як палымнеючае полымя факела. Я анічога падобнага не бачыў у жыцці! Божа, якіх вяршынь і вышынь можа дасягнуць творчасць. Гэта дакладна дух Божы!”

Міхась МАЛІНОЎСКІ

## Ветэраны пра час і сябе

Убачыла свет кніга “Запавет нашчадкам”, аўтарамі якой з’яўляюцца члены літаратурнага клуба пры Магілёўскім гарадскім савеце ветэранаў. У зборніку — вершы, проза, публіцыстыка.

На мой погляд, прыцягнуць увагу чытача вершы Валянціны Габрусевай “Букет бяссмертнікаў”, “Страчайце адпачынак мой, бярозы”, “Пах Бацькаўшчыны” ды іншыя. Валянціна Габрусева — аўтар трох кніг, з якіх найбольш цікавая “Журавінавыя гронкі”.

Добрыя светлыя радкі ў вершах Леаніда Іскрова, Васіля Залатухіна, Міхаіла Чаканава, Леаніда Осіпава, Юрыя Гусева. З прозы найбольш удалы артыкул Віктара Арцем’ева “Пысін слова гаварыў сучаснае і вечнае”. Гэта новы штрых да творчага партрэта слыннага беларускага паэта.

На жаль, у зборнік трапіла нямала нізкапробных вершаў. Аўтарам і рэдактару-складальніку патрэбна быць больш патрабавальнымі да сваёй творчасці. Тым больш, што яна адрасавана нашчадкам.

Іван ПЕХЦЕРАЎ

## Гучала польская мова

У Навагрудскім Доме-музеі Адама Міцкевіча адбылася прэзентацыя зборніка вершаў Марыі Дабжынскай-Каравайскай “Строфы з Навагрудка”. Кніга выдадзена ў Польшчы на польскай мове. Старшыня Саюза палякаў на Беларусі М. Лысы, дырэктар мясцовага краязнаўчага музея Т. Вяршыцкая і іншыя адзначылі, што Марыя Дабжынская-Каравайская — адна з тых творчых асоб, на долю якой выпала мноства выпрабаванняў, асабліва ў перыяд фашысцкай акупацыі. Невыпадкова лепшыя яе вершы прысвечаны сябрам-таварышам, з якімі змагаліся з ворагам, патрыятам роднага краю. Марыя Вікенцьеўна была і застаецца ў шэрагах актывістаў-дабрадзеяў, ахвотна дапамагае мясцовым літаратарам перакладаць тэксты з беларускай і рускай моў на польскую.

Яўген ЛАПЦЕЎ

**Пра Анатоля Вікенцьевіча Сабалеўскага я ўпершыню пачуў роўна паўстагоддзя таму... Стараста маёй студэнцкай групы філфака БДУ Міхась Мяцельскі вясной 1962 года паказаў мне якісьці нумар часопіса "Маладосць" і гарачай скорагаворкай выдыхнуў: "Вось з каго табе трэба браць прыклад. Ён таксама, як і ты, захапляецца тэатрам... Але не абмяжоўвае сябе. Пачытай, якую аповесць напісаў. Лепей, чым у "Юности" (тады гэты маскоўскі літаратурны часопіс карыстаўся вялікай папулярнасцю ў савецкага студэнцтва — у ім друкаваліся куміры моладзі: Р. Раждзественскі, Б. Ахмадуліна, В. Аксёнаў)! Глядзі, глядзі, — Міхась настойліва паказваў на здымак, — няўжо не ведаеш?" Я ўважліва ўглядаўся. Аблічча мне кагосьці нагадвала, але фотакартка аўтара ў часопісе была вельмі малая… А потым я ўспомніў...**



**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**тэатральны крытык**

# Пачцівы паклон долу

Я бачыў гэтага юнака падчас маіх наведванняў тагачаснага тэатральна-мастацкага інстытута. Мне ўдалося ў Міністэрстве адукацыі "выгандляваць" сабе права (бо тады ўжо лічыўся адным з "перспектыўных" маладых тэатральных крытыкаў і таму даказваў інспектарам міністэрства, як мне неабходна грунтоўная падрыхтоўка па гісторыі айчыннага і сусветнага тэатра) наведваць лекцыі Уладзіміра Няфёда. Вось на адной з тых лекцый, падалося мне, я і сустрэў яшчэ маладога, але ўжо вядомага тэатразнаўца А. Сабалеўскага. Я ведаў, што ён пасля БДУ паспеў ужо скончыць аспірантуру ў Маскве, у ГІТІСе... А неўзабаве пазнаёміўся з яго кнігай "Рампай асветленая". Зборнік тэатральна-крытычных артыкулаў падаўся мне надзвычай сучасным, а яго погляд на здзяйсненні беларускага тэатра прываблівалі не толькі свежасцю, а і нейкай узвышанасцю (у процівагу выказванням нашых "тутэйшых" крытыкаў, якія вельмі вузка трактавалі з'явы тэатральнай справы, — "хвароба", не вылечаная і да нашых дзён).

Цягам дзесяцігоддзяў мы рэгулярна сустракаліся з Анатолем Вікенцьевічам на навуковых канферэнцыях, пасяджэннях усемагчымых вучоных (і невучоных) саветаў, абмеркаваннях розных фестываляў і прэм'ер. Не, мы не былі сябрамі, але паважаў адзін да аднаго ніколі не страчвалі. І калі я, напрыклад, чуў пра яго плённую дзейнасць у якасці рэктара таго самага Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў сярэдзіне 80-х, і тады, калі мы працавалі на рэдактарскай ніве. Анатоль Сабалеўскі амаль усе 90-я гады быў галоўным рэдактарам першага нашага тэатральнага часопіса "Тэатральная творчасць" ("Тэатральная Беларусь"). Ён імкнуўся максімальна пашырыць кола аўтараў часопіса, прадставіць на старонках выдання панараму меркаванняў (і гэтым яго часопіс істотна адрозніваўся ад "Мастацтва"). У часопісе "Асновы мастацтва" мне ўдалося вытрымаць аналагічную лінію, і многія змешчаныя ў ім матэрыялы пра тэатр атрымлівалі пазітыўны водгук Анатоля Вікенцьевіча...

Пры канцы "нулявых" XXI стагоддзя мы апынуліся суседзямі на пасяджэннях вучонага савета Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фалькдору Нацыянальнай акадэміі навук. Вось тут я ацаніў не толькі веды карыфея тэатразнаўства А. Сабалеўскага, але і ўпэўніўся ў яго сапраўднай інтэлігентнасці, тактоўнасці, што была ці не самай характэрнай рысай яго чалавечай натуры. Але нашы роўныя, узаемапаважлівыя прыяцельскія адносіны рэзка змяніў адзін выпадак, які перавёў іх у разрад сяброўскіх.

Ранняй вясной 2005 года група крытыкаў была запрошана ў Гомельскі абласны драматычны тэатр на прагляд спектакляў і абмеркаванне іх. Нас, дваіх прафесараў, пасялілі разам у трохпакаёвай кватэры ў гомельскім мікрараёне. І вось кожны вечар мы бавілі з Вікенцічам у доўгіх гутарках. Пра жыццё, пра мастацтва, пра кнігі. І тут мы выявілі процьма знаёмых, нават па-за сферай тэатра. Анатоль Вікенцьевіч, памятаю, працаваў тады над спадчынай Францішка Аляхновіча, з захапленнем распавядаў пра эпізоды жыцця славутага драматурга, пра яго трагічны лёс. Раз-пораз пытаўся ў мяне пра тэрміналогію сучаснай эстэтыкі... Урэзаўся у памяць адзін эпізод. Я затрымаўся ў тэатры, вярнуўся дадому каля гадзіны ночы. Вікенціч чакаў мяне, не клаўся спаць. І мы прагаварылі з ім амаль да раніцы...

Ён крышачку не дажыў да сваёй юбілейнай даты: 27 мая А. Сабалеўскаму споўнілася б 80. Але змест жыцця, як мы ведаем, не вымяраецца колькасцю пражытых гадоў. Галоўнае — што зроблена чалавекам. Анатоль Вікенцьевіч Сабалеўскі зрабіў агромністы ўнёсак у нацыянальную культуру. Ён прызнаны карыфей беларускага тэатразнаўства, які напісаў больш як два дзясяткі кніг і які, нібы пражэктарам, высвеціў постаці вялікіх творцаў беларускага тэатра, такіх, як Б. Платонаў, Г. Глебаў, К. Крапіва. Ён стваральнік "Хрэстаматыі па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі", змястоўных раздзелаў па гісторыі беларускага тэатра ў розных выданнях. Акрамя гэтага, ён знаўца тэатра былых савецкіх рэспублік (прыкладам таму з'яўляецца яго званне ганаровага доктара Ташкенцкага інстытута мастацтваў). Ён грунтоўны, моцны, сапраўдны крытык. Летась выйшла апошняя яго кніга нарысаў, артыкулаў, эсэ. І ў ёй А. Сабалеўскі яшчэ раз абгрунтоўвае неабходнасць крытыкі ("каб не даць памерці тэатру"), што ў процівагу дылетантызму сучаснай журналістыкі гучыць важка і годна...

І ўрэшце, у яго шмат вучняў, якія, трэба спадзявацца, не пасаромяць імя свайго настаўніка... Светлая памяць і паклон долу, Анатоль Вікенцьевіч, — ад усіх, хто мае дачыненне да беларускага тэатра. У іх ліку і аўтар гэтых радкоў, які нарадзіўся таксама 27 мая...

# Ён словы сеяў, як зярняты…

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

**Для кожнага з нас самы любы і дарагі той куточак зямлі, дзе нарадзіўся і ўзрос, дзе ад людзей набіраўся жыццёвай мудрасці, працоўнай сталасці, сэрцам адчуў красу і сілу роднай зямлі. Такой запаветнай мясцінай для паэта Івана Гурбана стала вёска Юшавічы, што на Нясвіжчыне. Тут ён нарадзіўся 21 мая 1922 года, тут знайшоў свой апошні прыстанак у першы майскі дзень 1999 года.**

За не такія ўжо лёгкія гады свайго жыцця І. Гурбан дасканала засвоіў не толькі сакрэты кравецкага ўмельства, якому вывучыўся ў юнацтве, але і навуку поля, збожжавай нівы, добра ведаў цану кожнаму коласу, кожнаму зярнятку, душою выношваў тое, пра што хацеў сказаць людзям у сваіх радках. Зямля, праца на ёй змалку сталі яго жыццёвай неабходнасцю, найпершым прызваннем.

Пісаць вершы ён пачаў вельмі рана, яшчэ ў час вучобы ў вясковай польскай сямігодцы, аднак усур'ёз захапіўся паэтычнай творчасцю ў пасляваенныя гады, калі ўпершыню змог адчуць ускрыленую радасць надрукаванага радка, калі роднае слова настойлівей пастукалася ў сэрца, прымусіла асэнсаваць сваё захапленне і звязаны з ім выбар.

Часта пасля клопатнага працоўнага дня ў паляводчай ці будаўнічай брыгадзе Іван Яўхімавіч вымяркоўваў час, каб узяцца за пяро ці аловак, дапазна пасядзець над звычайным вучнёўскім сшыткам, вышукваючы і занатоўваючы патрэбныя радкі, знаходзячы ў творчасці і спачын, і задавальненне: "Я хлебароб ахвочы і заўзяты, // Кармлю другіх па правілах вясны… // І на радню я плённы і багаты: // Калоссе ніў — то рук маіх сыны!"

Праўда, быў у біяграфіі Івана Гурбана перыяд, калі ён, падпарадкаваўшыся даверу землякоў, згадзіўся, каб яго абралі старшынёй сельсавета. Аднак хадзіў у начальніках нядоўга, усяго два гады. На пачатку 60-х, калі адбыўся чарговы наступ улад на царкву і вернікаў, яму было загадана вышэйшым начальствам залезці на дах Юшавіцкай царквы і спілаваць крыж. Гэтым разам старшыня сельсавета не паслухаўся раённага кіраўніцтва, не выканаў загад. Давялося "здаць партфель", зноў заняцца працай, больш звыклай для яго. А скінуць крыж з царквы знайшоўся ахвотнік. Ці то была воля Усявышняга, ці то ўласная неасцярожнасць, але таго чалавека праз колькі гадоў у лесе насмерць прыдушыла дрэвам.



Дэбют, які для сялянскага паэта Івана Гурбана адбыўся ў пасляваенным рэспубліканскім друку, іначай як удалым не назавеш: ці кожнаму правінцыяльнаму шукальніку рыфмы спрыяла ў той час удача ўпершыню надрукавацца ў часопісах "Полымя", "Работніца і сялянка", у газетах "Калгасная праўда", "Звязда", "Мінская праўда"? Яго вершы і байкі ўсё часцей і часцей з'яўляліся на іх старонках, адкрываючы чытачу ўдумлівія і дасціпныя назіранні аўтара. Гэта нібыта пра сябе сказаў ён у вершы "Паэт":

*Задума спее...*
*Час за працу брацца.*
*У тайнах ён знаходзіць адкрыццё...*
*І сам умее шчыра захапляцца,*
*І споведзь слухае тваю, жыццё!*
*Паэт мінулага аблічча помніць*
*І будучае туліць да грудзей.*
*Радкі яго, як сонечныя промні,*
*Вітаюць, абнадзейваюць людзей.*

З часам па-свойму цікава, вынаходліва і змястоўна раскрыўся талент Івана Гурбана ў творчасці для дзяцей. Не парываючы дружбы з выданнямі "дарослымі", ён неўзабаве стала "пасяліўся" на старонках часопісаў "Вясёлка", "Бярозка", знайшоў чытачоў-прыхільнікаў у газеце "Піянер Беларусі". У сваіх творах аўтар імкнуўся данесці да дзяцей мелодыку і багацце жывога беларускага слова, у звычайных рэчах і з'явах убачыць незвычайнае: паэтычна абмалёўваць дэталі, па-новаму зірнуць на навакольны свет, прыроду, перадаць радасць працы, плён чалавечых рук, любоў да зямлі. Зборнікі "Чубаценькі будзільнік", "Калі вецер спачывае", "Пахі вясны" яшчэ раз пераканаўча пацвердзілі літаратурныя здольнасці Івана Гурбана, яго несумненны талент — талент дзіцячага паэта, што дало іх аўтару поўнае права "пастукацца" ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, атрымаць прафесійнае прызнанне. Тады яму ўжо споўнілася 72.

Падахвочаны такім, хоць, можа, і запозненым, прызнаннем, Іван Яўхімавіч падрыхтаваў для выдавецтва два новыя рукапісы. Але ўбачыць іх надрукаванымі, на вялікі жаль, не давялося. Яго новую кнігу "Паэт" нам, сталічным гасцям-пісьменнікам і землякам Івана Гурбана, прэзентаваў ужо сын паэта — Анатоль Гурбан. Ён стаў яе ўдумлівым укладальнікам, ён жа з дапамогай мясцовых спонсараў выдаў гэты зборнік у Нясвіжскай друкарні імя Сымона Буднага. А выхад зборніка быў прымеркаваны да юбілею аўтара — 90-годдзя з дня нараджэння.

На гэтую юбілейную ўрачыстасць у вёсцы Юшавічы сабраліся дзеці паэта, яго ўнукі, сваякі, аднавяскоўцы, прадстаўнікі мясцовай улады, школьнікі. На могілках, дзе пахаваны Іван Яўхімавіч, адбылося ўскладанне кветак. Іх прынеслі вучні і настаўнікі вясковай школы, прыезджыя госці. "Наша зямля, наша вёска можа ганарыцца тым, што тут нарадзіўся, жыў і працаваў, пісаў цудоўныя творы такі сціплы, але мудры і таленавіты чалавек, якім быў Іван Яўхімавіч Гурбан, — сказаў на адкрыцці ўрачыстасці дырэктар Юшавіцкай базавай школы Сяргей Кухта. — Нашым дзецям ёсць з каго браць прыклад у жыцці, ёсць у каго вучыцца любові да роднай зямлі, нашай мілагучнай мовы, да людзей".

Ля апошняга прытулку паэта выступілі таксама Ганна Жывень — намеснік старшыні ААТ "Юшавічы" — і паэт Мікола Маляўка. Ён расказаў пра свае сустрэчы з Іванам Гурбанам у рэдакцыі нясвіжскай раённай газеты "Чырвоны сцяг", а таксама прачытаў верш "Іванава душа", прысвечаны яму — "селяніну з душой паэта і паэту з рабочымі рукамі".

Потым свята перамясцілася ў Дом культуры і сельскую бібліятэку. Тут сын паэта Анатоль Гурбан пазнаёміў вяскоўцаў з вершамі, якія ўбачылі свет у бацькавай кнізе, а былы сусед Іосіф Падамацька "прачыніў" дзверы ў "творчую лабараторыю" паэта — расказаў, адкуль Іван Гурбан браў тэмы, як з'яўляліся некаторыя вершы.

З цікавасцю выслухалі прысутныя слова настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Наталлі Плаксы. У Карцэвіцкай сярэдняй школе, дзе яна працуе, створаны краязнаўчы музей, а ў ім ёсць куток, прысвечаны творчасці Івана Гурбана. Як каштоўную рэліквію захоўваюць там лісты, якія Іван Яўхімавіч даслаў музею ў далёкім 1995 годзе, падзяліўся ў іх сакрэтамі сваёй літаратурнай працы. Было што прыгадаць і аўтару гэтых радкоў: цягам дваццаці пяці гадоў мне давялося быць першым рэдактарам многіх публікацый Івана Гурбана, усіх трох яго дзіцячых зборнікаў.

Дружнымі воплескамі віталі ўдзельнікі свята вучняў Юшавіцкай школы, якія надзвычай пранікнёна дэкламавалі дзіцячыя творы паэта-земляка. Вершы і песні прагучалі са сцэны ў выкананні самадзейных артыстаў Нясвіжчыны, вядучых праграмы — педагога Святланы Антончык і васьмікласніцы Таццяны Янскай. Закончыўся канцэрт выступленнем вядомага майстра нашай эстрады заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Радзівілава: ён ахвотна згадзіўся ўзяць удзел у святкаванні юбілею, бо не адзін дзясятак гадоў сябруе з сям'ёй Гурбанаў, пры жыцці бачыўся з Іванам Яўхімавічам, быў слухачом яго вершаў.

Юбілейны бібліятэчны стэнд прадставіў гасцям свята магчымасць пазнаёміцца з выданнямі, дзе змяшчаліся творы Івана Гурбана. Тут жа экспанаваліся кнігі, на якіх пакінулі яму свае аўтографы некаторыя знакамітыя пісьменнікі.

Чулася ў размовах, што Нясвіжскі райвыканкам мае намер задаволіць хадайніцтва землякоў паэта і прысвоіць Юшавіцкай сельскай бібліятэцы імя Івана Гурбана. Думаецца, не варта адкладваць надоўга адпаведнае рашэнне: сёлетні юбілей — самая прыдатная пара.


Касманаўт Уладзімір Кавалёнак і народны мастак Беларусі Іван Міско.

# Адзіны, хто «асвойвае» космас

**Міхась КЕНЬКА, фота аўтара**

Дзве радасныя падзеі адбыліся ў жыцці знанага скульптара Івана Міско. Першая — паездка ў Зорны гарадок. Другая — уручэнне яму ордэна Юрыя Гагарына. Зорны гарадок Іван Якімавіч штораз наведвае з радасным пачуццём: грэюць душу сустрэчы з незвычайнымі людзьмі — тымі нямногімі прадстаўнікамі чалавецтва, якія пераадольваюць зямное прыцягненне, жывуць і працуюць у космасе. Для І. Міско кожная паездка да касманаўтаў нібы падзарадка,назапашванне творчай энергіі. Адсюль ён прывозіць эскізы новых работ.

Цяпер скульптар задумаў працягнуць серыю партрэтаў касманаўтаў, якую ён стварае ўжо больш як сорак гадоў: хоча вылепіць вывы прадстаўнікоў новага пакалення, тых, хто падоўгу працуе на міжнароднай касмічнай станцыі, займаецца там навуковай і даследчай працай. Асабліва яго зацікавіў доўгажыхар космасу, расійскі касманаўт Генадзь Падалка. За яго плячыма — тры касмічныя палёты, на арбіце ён прабыў 580 сутак, 27 гадзін працаваў у адкрытым космасе. Іван Якімавіч ляпіў яго скульптурны партрэт напярэдадні чацвёртага палёта. І вось Г. Падалка зноў на борце касмічнай станцыі. Ён абяцаў пасля вяртання абавязкова пабываць у Мінску, у майстэрні І. Міско, дзе і завершыцца праца над партрэтам.

Днямі майстэрню народнага мастака наведаў двойчы Герой Савецкага Саюза, прэзідэнт Федэрацыі касманаўтыкі Расіі, наш зямляк Уладзімір Кавалёнак. Ён уручыў Івану Міско ордэн Юрыя Гагарына, які творца адзначаны за вялікі ўнёсак у прапаганду гісторыі і дасягненняў сусветнай касманаўтыкі, у сувязі з 80-годдзем скульптара. Славуты касманаўт-беларус падкрэсліў: высокая ўзнагарода яшчэ і за тое, што Міско — адзіны ў свеце скульптар, які на працягу амаль усёй гісторыі касмічных палётаў нязменна адданы ў сваёй творчасці тэме асваення космасу.

# Метамарфозы... еднасці

**Галерэя “Беларт” прэзентавала сумесную мастацкую выстаўку Сержука Цімохава і яго італьянскага калегі Джузэппе Аціні пад назвай “Метамарфозы”.**

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

На адкрыцці слова бралі старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, яго першы намеснік Рыгор Сітніца. Выступоўцы адзначалі, што Беларусь заўсёды гасцінная для творцаў з розных краін свету і прыкладам — новы праект гэтай цудоўнай галерэі, пра якую, на жаль, не ўсе нашы мастакі ведаюць. Тут ладзяцца годныя, высокага ўзроўню выстаўкі. Прэзентаваны беларуска-італьянскі праект вельмі цікавы. Творцы, здавалася б, абсалютна розныя, але іх работы спалучаюцца, адлюстроўваюць невыпадковую еднасць, бо мастацтва — самыя эфектыўныя стасункі дыпламатыі, найлепшы шлях да паразумення.

Сяржук Цімохаў і Джузэпе Аціні распавялі пра сваё знаёмства, пра ідэю стварэння выстаўкі. Італьянскі госць зазначыў, што ён шмат вандраваў па свеце, пабачыў багата мастакоў і іх работ. У многіх краінах адчуваецца невялікі крызіс у мастацтве, а ў Беларусі яшчэ захавалася культура, любоў да жывапісу, прага пісаць, тварыць, што яго вельмі цешыць. Тут існуе адна з наймацнейшых мастацкіх школ.

Што ўбачыў італьянец, заклапочаны канцом свету, у жывапісе беларускага аўтара, які ўзнаўляе ў сваіх работах складаныя структуры паганскай міфалогіі? Якія работы выбірае Сяржук Цімохаў, каб адшукаць у формах сваёй творчасці адэкватны адказ на апакаліпсічныя прадчуванні Джузэппе Аціні? Чорныя дзіркі, што запаланілі жывапісныя карціны італьянскага творцы, разбураюць не столькі плоскасць палатна, колькі нашу карціну свету. Дзіркі — адзнакі любой матэрыі, якая існавала, існуе і будзе існаваць у Сусвеце. Сяржук Цімохаў прапануе пазітыўны погляд, аднак гэты “пазітыў” атрымліваецца амбівалентным. Яйка — сімвал пачатку жыцця — у некаторых яго творах ператвараецца ў аналаг чорнай дзіркі. Такім чынам, кола замыкае сама экспазіцыя: нараджэнне ўтрымлівае пачатак разбурэння, а канец вызваляе месца для новых формаў існавання.


Палатно Джузэппе Аціні з нізкі “Час” (2012).

Жывапісны дыпціх Сержука Цімохава “Вялікдзень” (2012).

# Праз акварэль — да габелена?

**Галія ФАТЫХАВА**

**Персанальная выстаўка акварэлі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Ніны Пілюзінай адкрылася ў мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Гэты выставачны праект яна прымеркавала да 45-годдзя сваёй творчай дзейнасці.**

У дзяцінстве Ніна Пілюзіна паўсюль насіла з сабой паперу і алоўак і малявала ўсё, што бачыла вакол. Таму пасля заканчэння сярэдняй школы паступіла ў Мінскае мастацкае вучылішча, паспяхова скончыла яго і пайшла вучыцца ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, дзе адным з яе настаўнікаў быў незабыўны П. Масленікаў. З алоўкам і пэндзлем яна не расстаецца і цяпер, і куды б ні закінуў лёс, мастачка спяшаецца занатоўваць убачанае, робіць накіды, эцюды, часам стварае закончаныя карціны. (Я і сама бачыла, як тры гады таму падчас вандроўкі ў Егіпет Ніна — толькі ўявіце! — стаяла проста ў марской вадзе і рабіла накіды бухты: прыгожыя караблі, яхты, хвалі, пясчаны пляж).

У савецкі час, успамінае Н. Пілюзіна, для мастакоў часта ладзіліся пленэры з выездам на поўдзень, у Дом творчасці. Адтуль яна прывезла серыю акварэлей “Крымскія пейзажы”, якія толькі цяпер і прадставіла публіцы. Ды і для многіх яе калег гэта адкрыццё, бо Пілюзіну ведаюць як выбітнага майстра габелена. Менавіта за манументальныя габелены “Кліч зямлі” і “Абуджэнне” (памер кожнага — 17 квадратных метраў!), што аздабляюць Урадавую залу ў Палацы Рэспублікі, яна атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Знаная мастачка Зоя Літвінава, якая па-сяброўску дапамагала Ніне Пілюзінай у падборы работ для экспазіцыі і ў іх кампаноўцы, выступаючы на вернісажы, прызналася, што яе здзівіла дацыроўка прадстаўленых карцін дый сам факт іх стварэння, бо далёка не кожны з дзеячаў прыкладнога мастацтва займаецца малюнкам і акварэллю.



Творы Пілюзінай адметныя цеплынёй настрою, тонкім адчуваннем прыроды, кветак, вясны. Яе прафесіяналізм бачны ў гармоніі колеру, у пластычнасці малюнка: “Песня Крыму”, ”Месяц май. Макі”, “Не пакідай мяне, мой светлы сум”, “Гімн сонейку” ды інш. “Ружовы міндаль каля блакітнай бухты” варты асаблівай увагі ды захаплення тым, як пэндзаль і акварэльныя фарбы могуць перадаць тонкія перажыванні мастачкі, што нікога не пакідаюць абыякавым. Дарэчы, менавіта вясну мастачка любіць больш за іншыя правіны года. Жыве яна ў Ратамцы і таму мае магчымасць заўважаць абуджэнне наваколля ад зімовай спячкі, штодня прыкмячаць і занатоўваць змены ў прыродзе: “Месяц май. Канікулы”, “Цвіце белы бэз”... На выстаўцы прадстаўленыя і партрэты ў акварэлі, якія мастачка пісала з натуры на вольным паветры, што надало ім асаблівую прыцягальнасць: “Партрэт маей бабулькі” (першы напісаны ёю партрэт — Ніне тады было 18 гадоў), “Паўднёвае зачараванне. Партрэт мастачкі Л. Кальмаевай”, “Аксамітны сезон. Мастачка В. Сазыкіна” і г.д.

Шмат у яе таксама малюнкаў тушшу, якія, відаць, чакаюць асобнай выстаўкі. Ёсць і жывапісныя творы. Але, наведаўшыся да мастачкі ў майстэрню, я найперш заўважыла там кросны. Ніна патлумачыла: “Праца над габеленам — працяглы працэс, трэба доўга чакаць канчатковага выніку, і раптоўна змяніць у гэтым працэсе што-небудзь нельга, ды і кросны з сабою не возьмеш, а вось акварэль дае мне магчымасць перадаць імгненнае захапленне, прытым фарбы і паперу можна паўсюль насіць з сабою”.

У майстэрні захоўваюцца толькі габелены малых памераў, іншыя ў мастачкі на здымках. Зразумела, памер не ўплывае на іх багатую змястоўнасць. “Беларусь — мая Радзіма, — кажа Н. Пілюзіна, — яна дае мне і натхненне, і сюжэтныя матывы”. Назвы яе твораў кажуць самі за сябе: “Купальская ноч”, “Легенды Мядзельшчыны”, “Вызваленая зямля”, “Беларускае вяселле”, “Ой, ляцелі гусі, ды з-пад Белай Русі”, “Легенда пра возера Свіцязь”. Габелен “На кветкавым лузе” яна прысвяціла Янку Купалу і Якубу Коласу.

Асобнае месца ў яе творчасці займае найскладанейшая тэхніка батыка (старажытнае індэнезійскае мастацтва роспісу тканіны з дапамогаю расліннага воску). Ёю Н. Пілюзіна таксама валодае прафесійна, выконвае вывы на натуральным шоўку, што надае яе пейзажам, нацюрмортам асаблівую, паветраную тонкасць.

Уменне мастачкі працаваць над малюнкам, яе валоданне акварэллю, жывапісам, любоў да паэзіі, нацыянальнасць — усё гэта адбіваецца на сюжэтах і кампазіцыях, на падборы фарбаў у габелене. Мабыць, таму яны ў Ніны Пілюзінай такія чароўныя, прывабныя, разнастайныя па фактуры, прыцягальныя для гледачоў на самых розных выстаўках. А новая, незвычайная для яе экспазіцыя атрымалася па-святочнаму светлай і радаснай. І па-свойму адлюстравала роздум самой мастачкі на тэму традыцый, пераемнасці і адвечнай прыгажосці.



На здымках: творы Ніны Пілюзінай.

Людміла НАЛІВАЙКА,
Вольга АРХІПАВА

# Зоркі і легенды

## Спорт у беларускай скульптуры 1960 — 1980-х гадоў (з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі)

**У еўрапейскай скульптуры тэма спорту пачынаецца з грэчаскай архаікі і класікі, насычанай услаўленнем ідэальнасці, мужнасці і харaства чалавека. На гэтым падмурку развівалася, як вядома, і беларуская скульптура. Азначаная тэма нарадзілася ў ёй разам з адраджэннем спорту — прызнаным міжнародным пасланцом міру. Віцебскі даваенны перыяд гісторыі айчыннага мастацтва можна лічыць стартавым для развіцця спартыўнай тэмы ў станковай скульптуры. Міхаілу Керзіну належыць серыя класічных работ, якія сфарміравалі аснову для вобраза ідэальнага чалавека — героя, змагара, першапраходцы і г.д. У калекцыі НММ Беларусі знаходзіцца невялікая па колькасці, але ёмістая па значнасці серыя скульптурных кампазіцый, якія перадаюць неверагодны наватарскі патэнцыял спартыўнай тэматыкі, што пачаў выяўляцца ў работах нашых творцаў з пачатку 1960-х гадоў.**

Спартыўная тэма ў скульптуры актыўна распрацоўвалася народным мастаком Беларусі Аляксеем Глебавым. У вобразах плыўчых ён стварыў, мабыць, самы выразны і жыццесцвярджальны ідэал жаночай эпічнасці і прыгажосці. Стыль класіцызму дазваляе мастаку прыпадабняць вобразы сваіх гераінь да грэчаскіх багінь з непакрытымі валасамі і агаленымі плячыма. Эцюд галавы “Плыўчыхі” 1950-х гадоў (гіпс) падаецца як цэласная кампазіцыя (жанр бюста), пабудаваная з асобных геаметрычных частак, а ўпрыгожванне пацеркамі агаленай шыі спартсменкі ўспрымаецца як метафара яе перамогі. “Гімнастка” з абручом ва ўзнятых над галавой руках — спынены момант, калі спартсменка засяродзілася альбо перад актыўным рухам, альбо перад пачаткам выступлення. Яе стройная фігура нагадвае знакавы міфічны вобраз. Скульптар паказаў, што крохкія жанчыны — сапраўдныя карыятыды сучаснага свету. Іх можна супастаўляць з магутнымі боствамі антычнай міфалогіі, якія рупіліся пра захаванне, гармонію, развіццё тагачаснай цывілізацыі. Ігар Глебаў (пляменнік Аляксея) у 1969 г. вылепіў фігуру заслужанага майстра спорту па фехтаванні, неаднаразовай чэмпіёнкі СССР і Алімпійскіх гульняў Таццяны Самусенкі. У гэтай рабоце скульптар ставіў задачу ўзвысіць ролю жанчыны-пераможцы да ўзроўню мужнасці на п’едэстале Перамогі.

Стыль манументальнага партрэта з натуры ў беларускай скульптуры быў прапанаваны ў 1958 годзе Мікалаем Якавенкам. Яго “Партрэт Мілігулы Мікалая Паўлавіча — гімнаста-экс-чэмпіёна БССР і СССР, неаднаразовага чэмпіёна Узброеных Сіл Савецкага Саюза, срэбнага прызёра XVII Алімпійскіх гульняў” дэманстраваўся на рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках з 1959 па 1975 гады. Гэта сапраўдны прыклад савецкай скульптуры. Аўтар увасобіў ідэю вобраза спартсмена-прафесіянала праз метафарычную мастацкую мову, дзе герой-гігант, нібы магутнае дрэва, сімвалізуе непахіснасць і моц.

Партрэт шматразовай рэкардсменкі СССР і Еўропы па лёгкай атлетыцы Марыі Іткінай, створаны Валянцінай Міхеевай у 1962 г., і сёння застаецца прыкладам высокіх творчых здабыткаў беларускіх скульптараў. Алегорыя вобраза нязломнай асобы адчувальная і ў выбары матэрыялу — парфіру, і ў выразнасці твару вялікай беларускай спартсменкі XX стагоддзя. Партрэт меў поспех у наведвальнікаў усесаюзных і міжнародных выставак.



*Валянціна Міхеева “Партрэт М. Іткінай” (парфір, 1962).*

Пра смелае парушэнне акрэсленых жанравых межаў класічнага стылю сведчыць твор Сяргея Вакара — партрэт заслужанага майстра спорту СССР, славутага барца вольнага стылю Аляксандра Мядзведзя (1971). Нягледзячы на тое, што ў якасці матэрыялу скульптар выбраў дрэва, яму ўдалося стварыць рытм аб’ёмаў кампазіцыі, якая заканчваецца своеасаблівым апірышчам, што ўвасабляе моцныя плечы героя. Аўтарскія асаблівасці творчасці С. Вакара выявіліся і ў характэрным нахіле галавы спарстмена, што таксама дапамагло ўвасобіць мужнасць, спакой, разважлівасць і раўнавагу, уласцівыя А. Мядзведзю.

На рэспубліканскіх выстаўках “Фізічная культура і спорт у выяўленчым мастацтве” (1971), “Фізкультура і спорт” (1975) экспанаваўся бюст “Рэферы. Шчарбакоў Барыс Аляксандравіч, суддзя міжнароднай катэгорыі” — работа Генадзя Мурамцава. Перадача псіхалагічнага стану героя дасягаецца праз выразнасць паглыбленага позірку героя, а штрых урачыстасці дадае сама выява імпазантнага мужчыны, да таго ж, бюст трымаецца на гальштуку-матыльку.



*Уладзімір Булыга “Водныя лыжы” (алюміній, 1971).*

“Юная спартсменка” Барыса Лазарэвіча пададзеная праз лірычны мастакоўскі погляд. Рамантызаванасць вобраза падкрэсліваецца вытанчанасцю рыс летуценнага, але валявога твару.

У скульптуры 1970-х арганічна развіваліся манументальнасць і дэкаратыўнасць, пашыраліся змены ў пластыцы і структуры. Пра гэта сведчаць тэхнічныя прыёмы ў выкарыстанні шамоту, глазуры, медзі, алюмінію, бронзы, граніту. Што да зместу — маладыя скульптары імкнуліся ўвасабляць у сваіх творах найбольш выразныя прыкметы масавага спорту — рух, грацыя, напружанасць, воля да перамогі. Пра пашырэнне жанравай і стылёвай палітры сведчыць пэўны адыход ад класічных узораў. Так, у шматфігурнай кампазіцыі “Плыўчыхі” (гіпс) аўтар Нэлі Якавенка дэманструе своеасаблівы пластычны акорд. Кожная з трох фігур мае свае адметныя рысы: першая злева дзяўчына прадстаўлена з ручніком на плячах, другая — пасля выхаду з вады, а трэцяя — гэта агаленая прыгажуня з валасамі да плеч.

Ніводзін від мастацтва таго перыяду не быў здатны гэтак шырока ахапіць тэматыку фізічнай культуры грамадства, як скульптура. І самае галоўнае, для кожнага творцы гэтая тэма была своеасаблівым пачаткам яго творчага шляху, а то і сімвалам жыццёвых прынцыпаў. Сімвалічна ўспрымаецца твор Святланы Гарбуновай “Рэгата”. Нахіленая спартыўная яхта — як сімвал сутыкнення чалавека з сіламі прыроды, дзе водная прастора — сапернік. Задачу паказаць экстрэмальны рух па марскіх хвалях ставіў перад сабой Уладзімір Булыга ў творы “Водныя лыжы”. Трыумф пераможцы Алімпійскіх гульняў байдарачніка Уладзіміра Парфяновіча скульптар Леў Гумілеўскі перадаў вельмі паважаным старажытным сімвалам, прадставіўшы партрэт спартсмена ў лаўровым вянку. Здольнасць кіраваць сваім станам у выяве конніка — “Пераможцы” Васіля Палійчука, талент пераўвасаблення адлюстраваўся ў постацях “Гімнастак” Нэлі Якавенкі і Станіслава Ларчанкі.

Асобнай увагі варты твор Уладзіміра Жбанава “Таня” (1982), які можна лічыць пачаткам творчага шляху вядомага майстра. У гэтым творы, на наш погляд, былі закладзены асноўны паказчык асабістага творчага кодэкса скульптара: спалучэнне інтарэсаў як галоўнага героя, так і гледачоў-балельшчыкаў. Кампазіцыя адлюстроўвае працэс чакання выхаду гімнасткі да шырокай публікі ды суддзяў — чакання тых хвілін, калі будзе ацэньвацца яе прафесійная вартасць. І гэты стан чакання, на думку мастака, — самы хвалюючы, як у спорце, так і ў мастацтве.

За мінулае XX стагоддзе беларускі спорт дасягнуў алімпійскіх вяршынь, пацвердзіў сваю актыўную ролю ў жыцці нашага грамадства. Ужо даўно наспела патрэба стварыць скульптурныя алеі алімпійскіх герояў-пераможцаў, якія прынеслі сусветнае прызнанне нашай Радзіме. Тым болей што беларуская скульптура не страціла свой прафесійны ўзровень і злучанасць з вобразам чалавека ў яго класічным, сімвалічным, рэалістычным увасабленнях. Значыць, ёсць вялікая магчымасць памнажаць і развіваць нашы вялікія спартыўна-скульптурныя дасягненні.



*Уладзімір Жбанаў “Таня” (алюміній, 1982).*

## Сталічны вернісаж

Арцём КУМЕЛЬСКІХ

► Графічныя аркушы Вячаслава Паўлаўца, створаныя цягам апошніх пяці гадоў пад уплывам уражанняў ад міжнародных вандровак у Чэхію і Германію, пленэру ў Лагойску і падрыхтоўкі да рэспубліканскай выстаўкі “Літ-арт”, экспануюцца ў галерэі “Панарама” Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У самой назве яго персанальнай выстаўкі — “Акварэалізм” — адчувальны намёк на тое, што мастак, працуючы ў далікатнай і капрызлівай тэхніцы акварэлі, стварае новую рэальнасць у суаўтарстве... з жывой вадой. А вынік гэтай сутворчасці заўсёды непрадказальны і таямнічы, таму асабліва прывабны для знаўцаў вытанчанага вобразнага свету акварэлі.

► Да 17 чэрвеня ў галерэі “Ракурс” Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі можна паглядзець выстаўку малюнкаў Наталлі Слушко — напоўненых радасцю жыцця і пранізліва кранальных. Іх аўтар усё жыццё прысвяціла маляванню. Для яе гэта было кшталту дзённікавых запісаў. Яна з маленства асвойвала прафесію мастака. Скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці “дызайнер інтэр’ераў”. А потым выявілася цяжкае генетычнае захворванне, якое скараціла зямны шлях таленавітай мастачкі: летась, не дажыўшы двух гадоў да сваіх сарака, яна пакінула гэты свет... Арганізатары выстаўкі ўспамінаюць словы Наталлі: “Выпрабаванні даюцца дзеля таго, каб мы станавіліся мудрэйшымі. Дзякуйце за тое, што ёсць. Лавіце моманты любові, цеплыні, захаплення. Часцей гаварыце прыемныя словы, часцей усміхайцеся, часцей дакранайцеся да рук, якія нясуць вам цяпло”. На выстаўцы прадстаўлена больш як паўсотні графічных работ, створаных Н. Слушко ў розныя гады. Яе яскравая фантазія, аптымізм, шчырасць не пакідаюць гледачоў абыякавымі. А значыць, спраўджваецца мара мастачкі, якая вельмі хацела, каб яе творчасць убачыла свет.

► Два вернісажы, што адбыліся ў сталічным Палацы мастацтва, прадставілі творчасць сёлетніх юбіляраў.

Персанальная выстаўка Уладзіміра Сытчанкі прысвячаецца яго 60-годдзю. Вучань В. Шаранговіча і П. Любамудрава, мастак вядомы сваімі лінагравюрамі, акварэлямі, партрэтным жывапісам, плакатамі. Вобразны свет яго сюжэтна-тэматычных кампазіцый, лепшыя з якіх знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, вызначаецца эмацыянальнай ураўнаважанасцю, сувяззю з рэалістычнымі айчыннымі традыцыямі. Уладзімір Сытчанка працуе і як кніжны графік. Выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

На дзесяць гадоў маладзейшы за яго жывапісец Іван Козел, чые творчыя прыярытэты сфарміраваліся, можна сказаць, з ранніх гадоў. Ураджэнец маляўнічай і рамантычнай Навагрудчыны, замілаваны родным наваколлем, захоплены беларускімі краявідамі, І. Козел аддае перавагу жанру пейзажу. Скончыўшы ў 1996 годзе БДАМ, дзе яго педагогамі былі М. Данцыг ды А. Марачкін, ён застаецца перакананым рэалістам і свае творчыя прынцыпы імкнецца перадаць моладзі, выкладаючы ў Рэспубліканскай гімназіі-каледжы імя І. Ахрэмчыка. Работы жывапісца знаходзяцца ў Доме-музеі А. Міцкевіча ў Навагрудку, у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, іншых зборах, у тым ліку ў прыватных калекцыях за мяжой.

# Жывапіс па шкле

**Цікавыя жанравыя кампазіцыі, пейзажныя замалёўкі, выявы раслін і прадметаў, адлюстраваныя невядомымі мастакамі першай паловы XX ст. на шкле, захоўваюцца ў многіх музеях, у тым ліку ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Хтосьці мог пазнаёміцца з гэтым багаццем у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь падчас выстаўкі твораў народнага мастацтва.**

**Валянціна МАЛЮШЫНА**

Каго не зачаруе таямнічасць шкла! Бляск і празрыстасць, адлюстраванне свету, містычнае трапяткое жыццё, якое мяняецца на яго паверхні з кожнай хвілінай! Гэты цудоўны матэрыял быў вядомы яшчэ ў старажытнасці. Калі яго ўпершыню выкарысталі як аснову для жывапісу — ніхто не ведае. Але мяркуюць, што тэхніка жывапісу па шкле была шырока распаўсюджана яшчэ ў эліністычным мастацтве (апошняе стагоддзе да н. э.).

Яе своеасаблівасць у тым, што карціна выконваецца інверсіяй, як від у люстэрка. Фарбы наносяцца на паверхню шкла ў зваротнай паслядоўнасці ў адносінах да звычайнага жывапісу: спачатку кладуць святло, а потым цені. На другім баку з'яўляецца выява малюнка, пасля чаго ён становіцца "тварам". Шкло выконвае двайную функцыю: асновы і ахоўнага слою жывапісу. Гэтаму папярэднічала амаль 2000-гадовая ідэя выкарыстоўваць яго ў якасці ахоўнага матэрыялу для твораў мастацтва, зробленых на палатне, паперы і іншай аснове, чым забяспечваўся аб'ёмны від карціны, незвычайнае ззянне і засцярога ад забруджвання.

Мастацкі роспіс выконваўся непразрыстымі алейнымі і лакавымі фарбамі. Відарыс часта быў арганізаваны насычаным каларытам, недыферэнцаванай гамай, аднолькава пакрытымі паверхнямі альбо тонкімі празрыстымі слаямі, нярэдка змешчанымі формамі. Колер часам адцяняўся яркасцю залатога і срэбранага лісця з фольгі, якая змяшчалася за выявай і надавала ёй "металічны" бляск.

Роспісу па шкле ўласцівы свае традыцыі, якія дазваляюць яму існаваць на працягу многіх соцень гадоў і адраджацца ў першароднай некранутасці фарбаў. Гісторыя жывапісу па шкле ведае перасячэнне розных стыляў, якія спалучаюцца кожны раз з густамі часу. У мастацтве партрэта захаваліся бліскучыя мініяцюры на шкле эпохі Рымскай імперыі.

На жаль, у музеях краіны створаныя калекцыі ўзораў гэтага цудоўнага і дагэтуль па-сапраўднаму не ацэненага мастацтва нешматлікія. У той час як у Румыніі ды іншых краінах яны захоўваюцца ў музеях і прыватных зборах разам з дакументамі, якія сведчаць пра шырокае распаўсюджванне роспісаў па шкле ў суседніх рэгіёнах: Венгрыі, Югаславіі, Трансільваніі, Букавіне, Малдове, Украіне. Больш шырокаму камплектаванню перашкаджалі як нетрываласць матэрыялу, так і прадузятыя адносіны з боку асобных даследчыкаў, схільных лічыць роспісы па шкле "імпартаванай безгустоўшчынай". Таму творы, што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту, могуць заведчыць: роспісы па шкле пашыраюць і ўзбагачаюць арсенал народнай творчасці беларусаў. Назіранні паказваюць, што ў працэсе свайго развіцця ў нашай краіне роспісы па шкле ў нечым адышлі ад першапачатковых экзатычных формаў і пад уплывам беларускай народнай творчасці набылі яркі нацыянальны каларыт.

Прыцягваюць увагу перш за ўсё іканаграфічныя творы, а таксама розныя карціны з сімвалічным зместам. Напрыклад, вельмі цікавы абраз "Маці Божая Адзігітрыя" (канец XIX — пачатак XX ст.) з Камянецкага раёна. Сюжэт і кампазіцыя — традыцыйныя: Маці Божая прыцiскае да сябе Ісуса Хрыста. Але вельмі арыгінальная колеравая гама: "залаты" фон заменены блакітным. Ісус Хрыстос — у светла-карычневай кашулі з залацістым шырокім поясам, Багародзіца — у цёмна-карычневым хітоне з залацістымі акантоўкамі, чырвоным гіматыі, з галавы ніспадае чорны мафорый з серабрыстай падбіўкай. Рысы твару, кісці рук і ступні ног абазначаны чорнымі контурнымі лініямі. Вельмі ажыўляюць твор кветкі ў верхніх кутках, якія быццам злучаюць гэтую выяву з аналагічнай групай абразоў, што распаўсюджаны на Палессі.

Некалькі карцін перадае ідэю сямейнага дабрабыту, сытага ўтульнага жыцця. Напрыклад, узоры з вёскі Гуменнікі Пастаўскага раёна, датаваныя пачаткам XX ст. У цэнтры, звычайна буйным планам, зроблена выява золатавалосай кучаравай дзяўчыны. Адкрытая і пышная сукенка адцяняе ружовае цела маладой прыгажуні. На руках белы кот альбо побач змешчана постаць каня. Часам дзяўчына адлюстравана сярод пышных кветак. Існуе вялікая колькасць варыяцый на гэтую тэму. Невядомыя майстры, каб данесці свае задумы, карысталіся і сімвалічнай прадметнасцю, і акруглымі рысамі выяў, і спалучэннямі цёплых фарбаў.

Вялікую цікавасць уяўляе знойдзены падчас экспедыцыі ў Чарнобыльскую зону, а дакладней — у вёску Дзеражня Касцюковіцкага раёна, своеасаблівы трыпціх: тэматычная карціна (дзяўчына з галубкамі, дзявочы партрэт, нацюрморт з кветак). Нягледзячы на жанравую разнастайнасць, трыпціх валодае адзінымі стылістычна-мастацкімі рысамі: яму ўласцiва колерная тоеснасць (спалучэнне кантрасных фарбаў: чорны-чырвоны-белы), падобная манера выканання, аплікацыйнасць шырокіх колерных плям і супольны эмацыянальна-ўзнёслы тон. Спынімся на тэматычнай кампазіцыі. У выцягнуты па вертыкалі фармат закампанавана ў поўны рост дзявочая постаць у чырвоным адзенні, гучна ўзятым да чорнага фону. Злева — фрагмент каланады, побач — галубкі. Нягледзячы на прастату сюжэта, карціна шматзначная па сваёй задуме і па сутнасці сімвалізуе ідэю светлага бязвоблачнага мірнага жыцця, дзявочай радасці, еднасці чалавека і прыроды.



*"Маці Божая Адзігітрыя".*



*Дзяўчына з галубкамі (адна з карцін трыпціха).*

Пейзаж у роспісах па шкле адлюстроўвае часцей за ўсё ідылію райскага куточка. У работах, знойдзеных у вёсцы Пузыры Мядзельскага раёна і ў выселеных вёсках Брагінскага раёна, бачым лясное ціхае возера на зары. Масток, белыя лебедзі, белыя лілеі, домік з чырвонаю страхою. Гэта, а таксама прыглушаная каляровая гама і ўзнёслы настрой карцін, перадае спрадвечную мару пра шчаслівае жыццё, каханне, райскі спакой. Для большай выразнасці і аб'ёмнасці майстры наносілі асобныя дэталі малюнка з двух бакоў асновы, прычым першы ўзор не паўтараў другі ні па форме, ні па памерах. Нанесеныя на "твары" выявы дапаўнялі асноўны сюжэт.

Сярод прадстаўленых роспісаў па шкле пераважаюць розныя кампазіцыі з кветак, букетаў, вазонаў, кошыкаў з ягадамі і кветкамі. Колеры насычаныя, фон часцей за ўсё чорны альбо блакітны. Бліскучы эфект півоням, ружам, макам і рамонкам у шматлікіх выпадках надае залацістая альбо серабрыстая фольга, змешчаная на тыльным баку выяў. Калі глядзіш на гэтыя работы, складваецца ўражанне, што беларускія майстры з вялікай любоўю стварылі вобраз летняга сонечнага лугу, поля і самой прыгажуні Беларусі як квітнеючага сада.

За адносна кароткі перыяд роспіс па шкле развіўся ў Беларусі ў яркую і арыгінальную з'яву, дзе своеасабліва адлюстраваліся і родная прырода, і сцэны побыту, і розныя прадметы. Яго ўздым прыпадае на пасляваенны перыяд. Усё гэта дазваляе лічыць мастацкі роспіс па шкле вельмі цікавым відам народнага мастацтва, які доўгі час радаваў і будзе радаваць беларусаў.

## Афарызм

*Гэта нічога, што ноч цёмная, — затое зоркі ярчэй мігцяць у небе.*

**Рыгор ШЫРМА**

## З глыбінкі

# Мільён усмешак

Літаратурная вечарына з нагоды 75-годдзя члена Саюза пісьменнікаў Беларусі сатырыка і гумарыста Міколы Падабеда прайшла ў Бялыніцкім раённым Цэнтры культуры.

За час сваёй творчай працы Мікола Падабед выдаў кнігі прозы "Мазалі мядовага месяца" (2000), "Мільён за ўсмешку" (2008), "Жонка напракат" (2011), неадначы станавіўся лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў гумарыстаў. Шмат робіць для прапаганды беларускай літаратуры.

Начальнік упраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч уручыў юбіляру Ганаровую грамату абласнога выканаўчага камітэта — за творчыя дасягненні і актыўны ўдзел у дзейнасці абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Грамату Саюза пісьменнікаў Беларусі ўручыў М. Падабеду старшыня абласнога пісьменніцкага аддзялення Уладзімір Дуктаў. Шчыра павіншавалі юбіляра землякі і сябры — творцы і журналісты.

На вечарыне прагучала шмат музычных віншаванняў у выкананні самадзейных артыстаў. Шчырыя словы сказаў прысутным і сам Мікола Падабед, які падзяліўся сваімі ўспамінамі і планамі.

**Уладзімір САСНОЎКІН, г. Бялынічы**

# Улюбёныя ў Самахвалавічы

У невялікай чытальнай зале бібліятэкі аграгарадка Самахвалавічы, што ў Мінскім раёне, адбылася сустрэча з мясцовымі аўтарамі: Алай Зайцавай, Іванам Малашэнкам і Анатолем Гладковым. Аповеды пра жыццё і творчасць чаргаваліся з вершамі ў аўтарскім выкананні, развагамі пра сучаснае становішча літаратуры. Узнікла асаблівая ўнутраная энергія, якая перадавалася ад чалавека да чалавека, зараджаючы эмацыянальна, прымушаючы паглыбляцца ў "музыку празрыстага лірызму".

Іван Малашэнка доўгі час жыве ў Самахвалавічах, тут жа і працаваў навуковым сакратаром БелНДІ "Бульбаводства і плодаагародніцтва". Доўгі час жыла па-за межамі Беларусі, у Тульскай вобласці, Ала Зайцава, але заўседы тужыла па роднай старонцы. Былы лётчык Анатоль Гладкоў нямала паездзіў па свеце, пабачыў розных людзей. Аднак, на яго думку, самыя прыгожыя і гасцінныя, зычлівыя і светлыя жывуць у Беларусі. У Самахвалавічах аўтар пасяліўся не так даўно, але ўжо палюбіў гэты край.

Да сустрэчы ў бібліятэцы была падрыхтавана выстаўка "Славутыя імёны зямлі Самахвалавіцкай", на якой былі прадстаўлены не толькі кнігі запрошаных пісьменнікаў, але і вершы іншых мясцовых аўтараў, прысвечаныя родным Самахвалавічам.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА, Мінскі раён**

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2836
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 7.06.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2589
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
12023
9 770024 468001